3ок
11149

**Пролетарыі ўсіх краёў, злучайцеся!**




Выданьне Камісарыяту Народнае Асьветы Беларусі.

Рэдакцыя: Менск, Скобелеўская, 6. Архірэйскі дом.

Год выд: I.

№ 2.

25 сьнежня 1920 г.

Інстытут Гісторыі ... Сьцяга

## Зьмест 2- нумару:



## Ад рэдкцыі „ВОЛЬНЫ СЬЦЯГ“.

Рэдакцыя «ВОЛЬНЫ СЬЦЯГ» шчыра просіць сваіх чытачоў і прыхільнікаў прысылаць ей фатаграфіі і рысункі беларускіх тыпаў, весак, двароў, замчышчаў, мястэчак, гарадоў, гістарычных памятнікаў, а так сама—фатаграфіі беларускіх пралетарскіх гурткоў, сходак, кірмашоў, аматорскіх беларускіх тэатраў і г. д. Кожная фатаграфія ці рысунак павінны мець апісаньне дзе, калі і кім зроблены (ці сабраны), а таксама назву мясцовасьці і тыпаў (якой губэрні, павету, воласьці).
Усе прысланае, па надрукаваньні ў «ВОЛЬНЫМ СЬЦЯГУ», будзе з вялікай падзякай зьвернута ўласьнікам.

3ок
11149

# ВОЛЬНЫ СЬЦЯГ

БЕЛАРУСКАЯ ЛІТЭРАТУРНА-МАСТАЦКАЯ І ПОЛІТЫЧНА-ГРАМАДЗЯНСКАЯ ЧАСОПІСЬ.

*ВЫХОДЗІЦЬ У МЕНСКУ РАЗ У ДВА ТЫДНІ.*

Год выд. І.
№ 2.
25 Сьнежня, 1920 году.

## *Кліч званоў.*

*(Сюжэт пазычаны).*

Над вялікім абшарам Беларусі, спавітай цемрадзьдзю, як удары грому, разносіцца гул званоў. Здаецца, што там, ў вышыне цёмнага неба, грымяць гіганцкія званы і кожным ударам кідаюць моцны кліч усей Беларусі: Уставайце!

Недзе там, у цемрадзі ночы сопнай Беларусі ўзьняўся вялізарны пажар. Недзе там, агнёвыя языкі ліжуць цёмнае неба і кідаюць загар пажара па ўсей Беларусі, над каторай зьвініць і грыміць прызыўны кліч набата: Уставайце!

Гэта страшны звон. Усе суседнія землі дрыжаць ад яго,—якога яны даўно жо ня чулі. Уся Беларуская зямля дрыжыць ад моцнага, як стыхія, як разгулы буры і гул акіяна, гудзячага звона.

Недзе там, у аграмадных языках полымя на чорным небе відаць сілуэты гіганцкіх званоў. Усе яны трасуцца ў бурным полыме, чырвоным, як кроў, і гарачым, як сонца.

Здаецца чырвоныя слупы агня калышаць гіганты-званы. Здаецца доўгія лапы агня ў вечкім вар'яцтве калышаць аграмадныя языкі званоў, якіх, як думалася, нельга крануць ніякай сілай. Але агонь кідаець іх, як вяцер былінку.

Усё мацней і мацней звоняць званы і здаецца ня вытрымаюць гіганты шалёных udараў, разсыпяцца ў дрэбезгі і разьлятуцца іх чарапкі, з апошнім ударам, па раўніне Беларусі.

Здаецца, што ня гукі, а магутныя, як нябескі гром словы вылятаюць з ляпаў званоў. Здаецца, што адтуль, з мора агня вырываюцца агнёвыя шалёныя словы. Здаецца, што чуваць агнёвая мова, моцная, як віхор, зычная, як удары грому, і неспакойная, як бура.

Мы—званы славы Беларусі. Усе лепшыя сыны яе вылівалі нас агульнымі сіламі і мы бьём набат усей вялікай Беларусі: Бьём набат!

Мы не зьвяртаемся да тых, чыё жыцьцё растрата, чыё жыцьцё пустата, чыё жыцьцё гультайства. Тыя нас не зразумеюць.

З вышыні, на якую мы падняты, нам відаць уся Беларусь, увесь сьвет, заліты крывёю.

Мы зьвяртаемся да вас, працоўны народ Беларусі. Усё, што відаць нам, на гэтых абшарах,—сады і будынкі, замчышчы і цэркавы, фабрыкі і сеткі, сплеценыя з дроту і рэйкаў, вялізарныя абшары поля, засеяныя збожжам,—усё гэта праца вашых рук.

Вы з пустыняў выраблялі красуючыя палі. Вы на сваіх плячох пераносілі горы, груды лесу, капалі канавы, будавалі палацы. Дзеля гэтага вы ўладары ўсяго гэтага.

Вы маўчалі, вы цярпелі, як вас білі, як над вамі зьдзекаваліся і свае і чужыя. Вы, як той Хрыстос, бяз жалю, моўчкі нясьлі свой цяжкі крыж. Вас штурхалі, ад вас адбіралі ўсё лепшае. З рук у вас вырывалі вашых дзяцей і на вашых вачох крыўлялі іх душы. Ад вас чураліся, вам плявалі ў твары, вас асьлеплялі,—а вы маўчалі. Вам цяжка было бачыць ўсё гэта, ў вас душа разрывалася на кускі, але вы маўчалі. А калі-ж хто і хацеў сказаць, яму затыкалі рот. Цяпер мы звонім да новага жыцьця! Вы, пакутнікі сяляне, гаспадары на сваёй зямлі. Уставайце!

Яшчэ ня ўся ваша Бацькаўшчына ў вашых руках. Яшчэ ў другой палавіне яе стогнуць вашы браты. Яшчэ там ліецца руччамі кроў. Мы званы новага жыцьця, бачым з вышыні, як там гаспадаруць тыя, каторыя заўсёды зьдзекаваліся над вамі. Мы бачым, як адтуль цягнуцца сюды худыя рукі, мы чуем стогны: Ратуйце!

Яны бачуць загар пажару, яны чуюць наш прызыўны кліч. Хутчэй-жа к ім!

Мы клічам вас выратаваць Бацькаўшчыну.

Мы клічам вас быць гаспадарамі сваёй зямлі.

Мы клічам вас на бой з ворагамі вашае культуры, вашага новага, вольнага жыцьця.

Мы клічам вас к будаваньню сваёй культуры, к прогрэсу.

Мы клічам вас, гаспадароў гэтае зямлі, адабраць украдзенае.

Мы клічам вас да барацьбы з вашым векавым ворагам, каторы зьбіраецца глынуць, зьніштожыць вас. Прачхніцеся!

Мы бьём набат, мы завём вас усіх да працы, будуйце жыцьцё! Мы клічам вас: Уставайце!

**Неўскі.**

# Спатканьне.

## (Апавяданьне).

На вуліцы зьмеркалася.

Залатыя, чырвоныя праменьні захадзячага сонца аблівалі хібы хат крывавым водблескам.

Стаяла нязвычайная сьціш. Густы мяккі пах гароднае зелені і садовых кветак сьвежым імпэтам напаўнялі цёплае пыльнае паветра, робячы яго яшчэ болей душным і гнятучым.

У вёсцы, як і заўсёды, цякло жыцьцё у звычайнай летней клапоце, злыганай з тэрмінам касьбы і жнітва.

Адрэдку па вуліцы праяжджаў селянін з поля, варочалася ад туль-жа з мяшком травы сялянка. Бегалі і крычалі ля хат разьвістыя, бескапотныя дзеці, брудныя, абарваныя, з пакудлачанымі коскамі.

Агапа сядзела ля вакна, устраміўшыся зіркам у вакно суседнее, Дзям'яна Гляка, хаты, дзе весела гулялі атсьветы вагнёва-чырвонага проміня. У яе галаве роўзалі ўпартыя, настойныя, ўжо праз цэлы тыдзень не пакідаўшыя яе думкі, часткаю пераходжаныя ў аброблены, абдуманы плян. Упілена, пралазячы ў самыя захоўныя драбязы яго, Агапа абдумаўвала, стварала ўсялякія магчымасьці да яго выпаўненьня і ў чуткі парашала:—Болей чакаць ненамерана: няма магчымасьці і няма сілы. Досі ўжо! Калі ня стану на цьвёрдую нагу—ні згаварыцца з імі ні зашто. Ды ім усё роўна незразумелы ні маё пачуцьцё, ні мой язык, ні... усё, што мяне акольвае. Вось, дзякуй Богу, ўжо скора два гады, як жыцьцё ідзе ні па той пуціне, па якой яны звыклі яго бачыць ідучым... Два гады, як згібла мінулае, а ім... вібы ўпартым, даруйце мне за вымову, казлом, хочацца свайго.

Пачуўся гук звону, знарушыўшага сонную вёску і дапомніўшы аб заўтрашнім спачынку—нядзелі.

Агапа падня лася з лаўкі, устала і па старой прывычцы пералжагналася ды глыбока ўздыхнула.

— Хутка прыдуць... А прыдуць я і паведамлю іх, што далей кончана. Кіну-рыну і паеду—бо болей тут не магу заставацца, як яны сабе хочаць.

Агапа адвярнулася ва хату і міжвольна спынíла зірк на сьцяне; патрэт у пазалочанай аправе ручнога вырабу прыцягнуў да сябе яе пагляд. Агапа падалася бліжэй к сьцяне. Нярухома, ўсё ў аднымпалажэньні вось ужо болей году глядзеў на яе са сьцяны яе Костусь, заліхвацкім, бравым, у хворменнай вопратцы чырвонага ахвіцэра, з рамухамі цераз плечы, папругаю і бойнай гвяздою на левым баку грудзей.

Кожны раз, як Агапа глядзела на патрэтку дарагога ёй чалавека—а глядзела яна траха ні кожную хвілю, знаходзячыся ў хаце—сэрца яе білася часьцей, цёплае пачуцьцё ўцехі напаўняла душу, а прагнае, калючае жаданьне—ехаць к міламу Костусю—катавала яе да болі.

«Прыежджай да мяне, у Н. Наша вайсковая часьць, посьле шасьцімесячнага быванья на пазыцыі, знаходзіцца ў горадзе на спачынку. Спачываць будзем болей месяца. Я чакаю па службе падняцца вышэй і, можа стацца, застануся начальнікам гарнізону. Бач, я адлічыўся ў бойках, дастаў падзяку і за гэта мне даюць павышэньне».

Так пісаў у лісьце да сваёй Агапы Костусь.

І яна тысячу разоў прачытвала гэты ліст і кожны раз, пірачытваючы яго, праглася да «Жаданага Костуські» ўсёю душою.

Але час бег, а варункі і абставіны дамашняга жыцьця ўсё прашкаджалі ёй сарвацца з месца і паехаць. Праўда, крыху тут яшчэ віною былі і яе трусасьць, ды нязрэшаннасьць. «Найду ці не найду Костуся, а ад бацькоў адарвуся... Тады заклянуць яны мяне, адракуцца на заўсёды. Бо супроціў іх волі мне прыдзецца зьбегчы ад іх,» думала Агапа, калі сэрца прыводзіла да рашэньня.

І так мінула каля месяцу. Цэлы месяц! Як многа часу! Колькі вады за гэты час працякло, якія здарэньні маглі трапіцца ў жыцьці Костуся, у яго жыцьці, поўным нечаканых капрызаў долі!

Але пачуцьцё перамагала ўсё, сэрца патрабавала свайго. Уся істота яе заставалася абурэнай ніадчэпнымі думкамі аб ём, аб Костуську. Ня йшла на вум работа, кідалася із рук, нівошта не займала, нічога ня цікавіла. Гэтак доўга жыла з ім, гэтак шчыра зблізілася, так прывыкла да яго, так пакахала! Хто-ж і што ў моцы разлучыць іх назаўсёды, палажыць непераходныя прашкоды да іх спатканьня?

— Кінь ты гадаць аб сім, нудная! А пакінь дурасьць. Што ты ўгледзела ў ём самавітага, што з вума сходзіш па ём? Кінь, Агапка,—ў добрым настрою ўгаварвала яе матка часамі. А часамі, калі ёй дочка надазалянла сваім Костусем, сур'ёзна грэзілася:

— Выгнаць цябе, нягодніца, трэба да ўсіх чарцей. Усю сям'ю нашу апаскудзіць захацела... Злыгалася, шэльма, з бальшавіком і няма рады... З бальша-а-віко-ом! Нібы няма лепшых хлопцаў на сьвеце... Вось пачакай, прыдуць легіянэры, тады іншае запяеш... Ды праз яго і нам бяды не здкасьніцца будзе... Прычэпяцца—і аграбяць ці заб'юць за німа нішто, за жуліка якогась там... Выганім, Агапа, на сур'ёз кажу табе, калі не адрачэшся ад яго!..

— І трэба выгнаць! Волю сабе дала! Моц пачула... Праз бацькаў і не шманае! Пачакай, галубка, вазьму я цябе ў рукі!—ўшчуваў Агапу і бацька. І ўшчунак яго выводзіў Агапу з цэрпу ды яшчэ болей умацоўваў яе зрэшанасьць уцячы хутчэй да Костуся, зьбегчы ад нядобрых бацькоў і ўжыць свае спаконныя мары. «З ім мне гэтак добра будзе! Начальнік гарнізону! Усе падчыняюцца яго распарадкам, усе яго слухаюць! Посьле гонкі, бязпрыхільнасьці... Го, мой Костуська!—марыла Агапа, ў самоце.—Не, паеду, паеду, паеду,—пераказвала яна сама сабе, міжвольна ўтуркючы рэдкім, мерным ударам благаслаўлячага звону.—Толькі калі мне пайсьці з дому? І як пайсьці, каб ніхто ня знаў, ня бачыў, аднэй, цішком?—гадала яна ў натузе.

— Вечарам!—штосьці падсказала ёй:—Заўтра вечарам. Чаго ж чакаць далей! Парашыла—дык выпаўняй...

Агапа як бытцам-бы на момант супакоілася: прайшлася некалькі разоў па хаце, ўздоўж і ўпоперак, навет зацягнула напеў аднэй рэвалюцыйнай песьні, які збадзёрыў яе, падняў настрой і абудзіў ахвоту, а потым зноў прысела.

Прысела і радым зіркам пачала зьмяраць праз вакно сьцены хатаў, садкі, вуліцу.

Так прайшло з паўгадзіны. —Ну, ўжо ідзе ўжо вертаецца, ужо пачнецца,—раптам праказала яна самой сабе, нездавольна зарухала яна і адвярнулася ад вакна з нейкай каразьлівай пасьпехаю.

— Спакою няма: толькі ўнялося сэрца, як зноў...

Стук дзьвярэй і ўваход тут-жа ў хату Агапінай мацеры, перабілі яе: Агапа змоўкла і адвярнулася ў вакно.

А маці, Домна, высокая, гадоў пад сорак кабета, поўная і стройная, з гладкім тварам, вайшла, акінула хату зіркам і, прыкмеціўшы дочку ў вакне, спынілася ў запечку.

— Ты ўжо даўно дома?—чэрства запытала яна.

Агапа неадказала.

— Ты чуеш, ці не?—гульчэй вымавіла яна.

— Ня вельмі,—неахвотна адказала Агапа, міжвольна ўздрыгнуўшы.

— А бацька ня прыежджаў?—запытала маці.

— Не,—скрозь зубы праказала Агапа.

— Нябось ты ўсё дзьмешся... Недастае часосьці табе ў нас, крыўдзяць бедную... Не даюць волі дурнотаў чыніць... Мала сораму яшчэ прынесла бацьком, ды сплётак парадзіла сваймі дзеямі, дык яшчэ болей хочацца вадазаліць родным. Няхай, вось, паказваюць пальцамі на цябе: «твая дачка ўліпла ў басяка, запісалася ў бальшавікі... Камуну ўздумала будаваць...» Ад кожнага чуеш, кожны ўпікае... Эх, эх, і пасьпела-ж пераняць ліха ведае што... Што й будзе з тваіх вытвараў... дочка, дочка!..

Домна цягнула-б далей касьціць сваю «упартую, непакорную» дочку... Але гоман яе чым далей, тым цішэў і рабіўся неразборным, заплутаным.

— І чаго яна грызецца...—падумала Агапа. якой рабілася няўрымна стаяць на адным мейсцу і слухаць матчыныя прычыты. Яны гэтак ужо ўелісь ёй у косьці, так надазолілі! І яна то сударгна ўздрыгвала, садзючыся на лаўку, то нэрвоўна паднімалася. Задуменная ды змучаная цяжкімі думкамі яе тварына ўздрыгвала. Ад падышоўшых сьлёз расчырванелі вочы.

— Ды будзе вам, маці, расходзіцца: ўсё роўна ужо вам мяне ня справіць. Давайце лепей пад канец пагодзімся і... разыдземся ў ладах,—нязрэшана, цярэбячы ў руках кончык хвартуха, праказала Агапа.

На яе твару празіяла ўхмылка.

Маці, ня ждучы гэткіх слоў ад дачкі, ажно ўздрыгнула.

— Што-о ты кажаш?—не даўменна запытала яна Агапу.

— Але, маці. заўтра я парашыла ехаць да Костуся. Няпрыменна. І надумайце перашкаджаць.. Нічога не збаюся. Годзе... Рукі налажу на сябе, калі гвалтам будзеце трымаць.

Гарт і парашымасьць, з якімі Агапа праказала гэтыя словы, да таго жахнулі Домну, што тая ўся ажно затраслася ад ахапіўшага яе сполаху. Як трымала гаршчок у руках, так і выпусьціла яго на зямлю, праліўшы крупнік. Зьбялеўшая, ні то ад злосьці, ні то ад спуду, яна нямым голасам загаманіла:

— Як? Хто? Што? Агапка, чаму-ж ты так!

У голасе яе чуўся спуг, разгубленасьць, бязпомачнасьць.

— Паеду, паеду! як сабе хочаце... На хронт, далёка... Не магу далей слухаць вашых ушчункаў... грызьні, сварак.. Чырвонаю сястрою паеду... буду пераўвязваць раненых чырвонаармейцаў... Буду сама біцца супроціў паганых шляхтаў ды паноў. З вінтоўкаю, з мячом... у бойку пайду поміж с Костусям... Памру з ім. Не магу тут болей заставацца: надаела мне ўсё ў вас; і вы, навет, вашы рэчы, вашы думкі і жаданьні; ўсё сяло, паветра, якім сапу я гэтта. Скончана!

Домна стаяла, як прыварожаная да мейсца і не магла ўтлуміць сабе, што вакол яе чаўпецца. Яна была абурана ў канец нечаканым парашэньнем дачкі. «Адкуль усё гэта ўзялося?» На ўсё яны, бацькі, глядзелі скрозь пальцы, як на патворы ды дурноту распусьнае дачкі. А тут—на, табе: вунь што выходзіць.

— Агапка, чаму-ж гэта ты?—міжвольна вырвалася з губ Домны. А разбухтораная Агапа ліхамысла паглядзела на мацеру і вышла з хаты.

На двары пачуўся стукат калёс і зычны гоман: гэта вярнуўся з поля бацька Агапы, Ясь.

Набліжаўся вечар.

. . . . . . . . . .

На заўтра, нядзеляю, Агапа прачнулася раньнім ранкам. Усю ноч яна праляжала не заплюшчаўшы вачэй. Малявала пляны, думала, гадала, перакідалася думкамі к Костусю. Час ад часу ў яе душу закрадвалася сумленьне, находзіў страх перад будучыняю, і яна моцна неспакоілася... Але раптам настрой яе мяняўся: сьмелыя, бадзёрыя думкі і рашэньні адганялі няўверанасьць, паднімалі дух, і Агапа ўставала з ложку, неадноразна парываючыся хоць ураз-жа, ноччу, пусьціцца ў дарогу. Яна сама не магла-б адказаць, што толькі яе стрымвала і застаўляла ізноў лажыцца ў пасьцель і раздумоўваць, уражаць далей. І якія толькі вобразы не праміґаліся перад ёю ў гэту ноч!.. Вось Костусь на кані, у алягантным, з іголачкі гарнітуры, з бойнаю гвяздой на левым баку грудзей, з рэвальвэрам... Ён вядзе цэлы полк чырвонаармейцаў. Чутна музыка, граючая інтэрнацыянал, песьні... А вось і пазыцыя... Чуецца рэдкая страляніна... Гацаюць на канях польскія вуланы, аддаецца каманда... Відаць бліскучыя гузікі і палеты на іх сурдутах і шынялёх... Уй-юй! Як адваротна!.. Адкормленыя мызы, усё, здаецца, знаёмыя панкі ды хвальваркоўцы... «Эх, зьмяць бы іх усіх», думае Агапа: «Костуська, удар на гэту сволач і раздаві шляхтаў у шээлах... Няхай і другім закажуць яны двойчы ўрывацца на вольную зямлю сялян, у працоўную Беларусь».—«Зьністожыць, усіх зьністожыць чырвоная армія!»—чуецца ў адказ ёй голас Костуся:—я абуруся з ёю на паганае панства... І Агапа бачыць далей, як ён махае шабляю ў напрамку да лагеру палякоў. Чырвонаармейскія грамады паслухна здымаюцца з мейсца і гушчэрнаю калёнай рынуцца ў бойку. Чуецца выстрал, рэзкі, выяўны... за ім другі, трэйці, многа... і яны будзяць Агапу.

Яна прачнулася, але цяжар, прынесеная бязсоніцай, зьвязвала яе рукі і ногі, і прыкавала да ложку.

— Ах, трэба падымацца!—праказала яна, пад канец і ўстала, змардованая, бясьсільная. Задумалася, заохала... з паўгадзіны прасядзела нярухома.....

. . . . . . . . . .

— Агапка, Гапка...—раптам перабіў яе думкі рэзкі, вясёлы вокліч убегшага з вуліцы яе малодшага браткі, Сымонкі:—Прывязьлі! Прывязьлі Костуся Акрайца... У-у-у, якая пекная труна! Абабіта ўся чырвоным мошастам, з белымі кутасамі, з венкамі на версе... Якіясь-то два ахвіцэры прывязьлі... ён...

Апошніх слоў Агапа не магла разабраць: сэрца яе ёкнула, нібы абарвалася, прабітая гострым нажом. Не павярнуўся язык загутарыць, запытацца што-кольвек, разабрацца. Дзікім сполахам абдало ўсю яе, але не забіла, ня прышыбла раптам... Хутка, з маланным лётам, саскочыла яна з караваці, нядбала накінула на сябе папаўшую пад руку хустку, ў ніжняй спадніцы, выляцела з сяней.

Адчаяны, няпрытомны выкрык: «О, Бож-а-а! Косьця-а мой!» зьлiўся з рэзкім стукам засаўкі.

— Агапа, Агапа! Што з табою?—паняслася за ёю Домна, убачыўшы праз вакно бягучую на вуліцу дочку.

А на вуліцы ў гэты час чуўся зычны жудасны плач. Зьбіралася таўпа сялян і падымаўся гоман. Чуўся пахавальны звон.

**Цішка Гартны.**

# Песьня Лірніка.

Старац-Лірнік на прызьбе сядзеў,
Пад вакном мужыка беларуса,
Навёў струны і песьню запеў
Пра мінулыя часы прымусу.
Як калісь тут на нашай зямлі
Йшло за волю і веру змаганьне,
Панскі зьдек як сьцярпець не маглі,
І паднялі казакі паўстаньне.
Як з касою, з сякерай ў руцэ
Пагарджаны народ сабіраўся,
Між балот і лясоў, па рацэ
У казацкі ён стан гуртаваўся.
Як той стан стаў усіх вызваляць
З ланцугоў і чужацкай няволі,
Стаў суда ён і праўды шукаць,
Стаў шукаць для людзей лепшай долі.
У яго песьні я чуў імяны
Ваякоў-атаманаў казацкіх,
Што з адвагаю біліся яны,
Як Небаба Антон, Галаванкі...



Госьці ў лясьніка. (Са старой фатаграфіі).



Торжышча ў Слуцку.

Старац хвалы ім песьню сьпяваў,
Струны ліры гучней ўсё ігралі...
Шмат імён ён яшчэ ўспамінаў,
Што таксама калісь ваявалі.
Дый вось сумную песьню пяяць
Ён пачаў, і усіх задзівіла:
У гэтае песьні ён стаў праклінаць
Ворага—Янушу Радзівіла.
Аб ім старац шмат страхаў казаў,
Ажно з жалю сьціскаліся грудзі,
Як ён вёскі паліў, мужыкоў забіваў,
Як бязьвінную кроў лілі людзі.
Лірнік скончыў: «любеце свой край,
А як вернецца час той прымусу,
Тагды ў лес, брат-мужык, уцякай
Ён прытуліць цябе—беларуса».
Укруг старца сабраўся народ,
Слухаў песьню... і чую я крыкі:
„Хай казацтва жыве, як ўпярод,
Хай жыве атаман іх вялікі!“...

*М. Кудзелька.*

# Вучыцель Мутэрка.

Дзея адбываецца ў 1919—1920 г., узімку, у беларускім мясьцечку пад польскай акупацыяй, у доме заможнай удавы Ліпскай, а ў пакоі настаўніка яе дачкі Соні—вучыцеля Мутэркі.

Мутэрка (прыходзіць, распранаецца, дастаець партабак і круціць цыгарку). Пакуру хоць гэтае сьмярдзючае табакі. Яна падобна да Стамболі другога сорту, як цяперашняе людзкое жыцьцё да ранейшага. Хто там?

Ліпская (за дзьвярмі). Даніла Пахомавіч, да вас можна?

Мутэрка (з прыкрасьцю, памаўчаўшы). Ка-а-алі ласка...

Ліпская (наўмысьля ў дзьвярох). Выбачайце, Даніла Пахомавіч, я толькі на мамэнцік. Я хачу вам сказаць, што з Сонечкай сяньня займацца ня будзеце. Яна адпрасілася ў мяне да аднэе свае таварышкі. У той сястра прыехала з Вільні. (Павярнуўшыся, голасна пытаецца). Гапка! Гапка! Ці ты ўжо йдзеш? Лядзі-ж, не пазьніся, бо трэба зараз дровы насіць, чуеш?

Мутэрка. І навошта фокусы, мадам Ліпская? Кажыце проста, што нікога няма, і мы сьмела можам гаманіць аб чым хочам.

Ліпская. Данічка, мой любенькі! Ты яшчэ не адпусьціўся, гневаешся?

Мутэрка. Га, так! Вам карціць паразумецца? Дык ведайце, мадам, што ніякая сварка так лёгка мной не забываецца! І я ня хочу, каб мне ўсё мясьцечка амаль ня ў вочы гаварыла, што я быў вучыцелем, а цяпер—за палюбоўніка ў месьцячковой крамніцы! Ня хочу, годзе!

Ліпская (з гонарам). Што? Вам амаль ня ў вочы гавораць аб маім каханьні, і вам прыкра? Вы ня хочаце? А каб мне строілі падобныя насьмешкі, дык няхай сабе, так? Хваліць Бога, што я не такая маламожная, каб мясьцечка строіла мне насьмешкі за мае хатнія справы. І я ня крамніца, гэта няпраўда!

Мутэрка (зарагатаў). Знайшла чым наставіцца, ха-ха! Рукою не дастаць. Правільна, Блюма, ты не такая бедная, каб свайму каханку купляць такую сьмярдзючую табаку, як гэтая варшаўская махорка.

Ліпская (ўзрадаваная). Данічка! І ты за гэта мяне мучыш? (Падыходзіць бліжэй). Ну, як табе ня сорамна, мой каточак? Ты ведаеш, я для цябе нічога не шкадую, але дзе ж цяпер дастанеш добрае табакі? (Хочыць прылашчыцца).

Мутэрка (сьцюдзёна адхіляецца). Каточак—аблуплены хвасточак. Цярпець не магу ласкавых слоў, калі, калі... (Задумаўся, памаўчаў). Эй, скарэйбы прышлі бальшавікі!

Ліпская (боязна аглядаецца). Ну, дык што-б было? Лепшае табакі прынясуць?

Мутэрка. Адчыніў бы я сваю школу і разьвітаўся-б з вамі.

Ліпская. Я не разумею, а чым вам блага ў мясьцечку? Ці вы меней зарабляеце прыватнымі лекцыямі, ці што? Навет настаўнікі польскіх школ не дастаюць тых дзьвюх з гакам тысяч марак у месяц, якія вы можаце мець у мясьцечку за прыватныя лекцыі.

Мутэрка. Магу мець, ды ня маю.

Ліпская. Даніла Пахомавіч, вы не акуратна рахуеце. За лекцыі з Сонечкай вы маеце ад мяне цёплы пакой, сьвятло і добрае сталаваньне. Памяркуйце на царскія грошы, дык і то акажацца ня меней, як дзьве з гакам, а мо і ўсіх тры тысячы ў месяц.

Мутэрка. Адным словам, мадам Ліпская, палюбоўнік вам каштуе надта дорага. Я дасканальна разумею вашую псыхолёгію і спачуваю вам.

Ліпская. Данічка, ну што за тон, ну што за словы, ну фі, ну як толькі ня брыдка чалавеку. А я давала веры, што ён мяне запраўды любіць, уй, божа мой! (Тужыць).

Мутэрка. Бачыце, мадам, так выходзіць праз тое, што тут ёсьць ня толькі адна гэтая высокая ідэя запраўднага каханьня мужчыны з жанчынаю. Тут ёсьць яшчэ адна ідэя—грамадзкая павіннасьць чалавека перад сваім краем і народам...

Ліпская. Вашэці кажаце часам такім кніжным штылем, што я нічога не разумею. Я ў гэтым зусім невінавата, бо я заўсёды, як быў жыў мой нябожчык муж і выпісаваў „Ніву“, я заўсёды чытала ўсе літэратурныя дадаткі і ўсёчыста разумела.

Мутэрка. Мала чытала, хваліцца няма чым. Але я магу сказаць і прасьцей трохі. Бач, сустрэўся я сяньня з польскім школьным інспэктарам. Ен і пытаецца ў мяне...

Ліпская. Пасуліў польскую школу, што?

Мутэрка. Якраз, чакай... Ен, ведаеш, што сказаў? Што народ з такой інтэлігенцыяй, як я, варты свае долі. Пасьмеў сказаць, бэстыя, проста ў вочы. Я яму не дарую!

Ліпская. Нічога не разумею...

Мутэрка. Не разумею... не разумею... Ня дзіва, калі нічога болей, апрача дадаткаў „Нівы“, ня чытала. Як вучыцелі з голаду дохнуць, дык ён гэтага ня відзіць, а як натацыі чытаць вучыцелю, дык ён ахвоту маець.—„Вы, кажа, беларускія настаўнікі губіце той просты люд“... Ах, ты, дрэнь, бязмозглая галава! Глядзеў бы няхай, як легіоны ды „залатыя абручы“ губяць той люд!

Ліпская. Найлепей, каб дазволіў адчыніць школу.

Мутэрка. Якую?

Ліпская. Тваю... для цябе, Данічка.

Мутэрка. Дазваляе... польскую.

Ліпская. Польскую? Усё польскую?

Мутэрка. Можа-б згодзіўся й на беларускую.

Ліпская. Ці гэта ня тое самае, што для цябе патрэбна?

Мутэрка (узварушоны ходзіць па пакою). Што-о? Ну, ведаеце, мне з такім трудом далася мая цяперашняя мова, што псаваць яе ніколі ня згоджуся.

Ліпская. А некаторыя-ж вучыцялі згодзіліся і ўжо вучаць.

Мутэрка. Гм... З аднаго боку, няма ведама, як у іх пойдзе, а з другога боку, з галавы схадзіць нікому не забараняецца. А трэйцяе, з боку гуманнасьці, чалавек на ўсё пойдзець, калі яму трэба жорці,—аджа ня кожны можаць добра ўстроіцца, як я. Ну, што-ж, няхай паломяць трохі языкі, паглядзім!

Ліпская. Ай, праўда, як падумаеш, да чаго мы дажыліся, уй, Божа мой! Ці спадзяваўся калі мой нябожчык муж, што я буду наймаць для Сонечкі прыватнага лектара, бо ў Вільні такая да-

рагатоў на жыцьцё і на плату ў гімназіях. Бывала, у такую пару мы ходзім сабе ў тэатры, на канцэрты, у цырк на змаганьне лепшых асілкаў, ходзім туды, ходзім сюды і весялімся. Бывала ў вялікім месьце ўсё ёсьць, і калі быў жыў мой нябожчык муж, нам усё было даступна. Мы кожнае лецечка жылі сабе на дачы, дзе здаровы клімат, вясёлыя дачнікі і ўсяго даволі ёсьць, што купіць на сьнеданьне, ці на абед, ці на вячэру, і ўсё так танна. Ай, я так любіла гутацца ў гамаку між двух сасновых дрэў і чытаць кніжку. Вы можаце падумаць, якое здаровае паветра, як шмат таго, што наш знаёмы аптэкар называў азонам. Часам іграе аркестар салдацкае музыкі, і душа так радуецца. А цяпер? Нічога такога няма, ёсьць адны няпрыемнасьці. Цяпер Ісак Саламонавіч сказаў мадам Мэеравай і мадам Альпяровіч, што лесапрамысловая фірма „Браты Ліпскія“ можаць збанкрутаваць і зачыніцца. Ен так сказаў, а раней, калі быў жыў мой нябожчык муж, ні ён, ні хто другі так не сказаў бы. І чаму цяпер гэта ня можа быць? Усё можа быць! І бальшавікі могуць яшчэ дванцаць разоў вярнуцца, хто вам сказаў, што яны ня могуць вярнуцца, навошта жартаваць такімі штучкамі, я не разумею. Цяпер мы ўсе такія раззлаваныя, такія нядобрыя, бо ўсе маем сваю згрызоту. Што мы вінаваты? Мы павінны спачуваць адзін аднаму і даравэць за ўсякую злосьць. І я ня маю сэрца на Ісака Саламонавіча,—няхай кажаць тое, што ёсьць праўда. (Нейкі час маўчыць, потым бярэць яго за руку). Данічка! Мой любы, адпусьціся, ня прымай так блізка к свайму сэрцу, ці-ж ты ня відзіш, як я хачу твае ласкі, як я цябе люблю! (Туліцца да яго).

Мутэрка (нейкі час углядаецца ў яе, потым, не схаваўшы агіды, адпіхаецца). Не спадзейся, Блюма! Далей так жыць я не магу. Або ты прыймаеш хрысьціянства, і мы зьвянчаемся, або я кідаю твой дом і выяжджаю ў Савецкую Расію!

Ліпская (ашаламёная, з плямамі на твары). Уй, што ты гаворыш? Ты-ж ніколі так не казаў! Ці ты жартуеш ці ты пагражаеш? Навошта мяне мучыш, Данічка, га?

Мутэрка (узяўшы яе за руку). Слухай, Блюма! Зразумей ты маю душу. Я валюся й валюся ніжэй, я ўжо бачу пад нагамі нямінушчую прорву, але я не згубіў яшчэ жывадаўчага хаценьня спыніцца, застанавіцца, схапіцца за сук жыцьця, ў якім ёсьць такія-сякія ідэалы. Слухай, слухай далей! Можа я цябе і мучую, але мае мукі яшчэ горшыя, яшчэ бальнейшыя. Бо я ўзгадаваны і навучоны з ідэаламі, на ідэалах і традыцыях. Праўда, мае бацькі—сяляне, мужыкі, сярод якіх пануе дзіч, цемната, грубіянства, але сярод якіх ёсьць і свая спрадвечная маральная навука. Гэтая навука пусьціла яшчэ ў маёй дзяцінай душы глыбокае карэньне. Цяпер гэтае карэньне знаходзіцца ў вялікай супярэчнасьці з тымі адносінамі, у якіх я знаходжуся з табою, як мужчына з жанчынаю. Рад-бы выкараніць з сябе ўсе прыхамаці, але ня ўсё-ж у нашых сілах. Слухай, слухай далей. Ты ведаеш, я ўзгадаваўся ў вучыцельскай сэмінарыі, рос у бурсе на скарбовы кошт, бо добра вучыўся і заўсёды меў круглую пяцёрку за павядзеньне. Як бы людзі не ганілі вучыцельскія сэмінарыі, але дай мне веры, Блюма, што маральная навука ў гэтых школах, дзеля шчыльнага сужыцьця іх з царквою, стаяла дужа высока. І сэмінарыя дала мне ўсё: кавалак хлеба, значыцца, прафэсію вучыцеля; маю прыгожую цярашнюю расійскую мову, значыцца, прымету культурнага, інтэлігентнага чалавека, з якой мяне скрозь па ўсей Расіі прымалі за чысьцейшага расійца; урэшце яна дала мне і мой сучасны сьветагляд... Так, я прызнаю савецкую ўладу, бо гэта ёсьць факт, але ўкараняць той факт не ўкараняў і ня буду. З другога боку, я не пабег да палякоў адчыняць школкі пад іх дудку і да пары ўзьдзержыўся. Адсюль болей менней відзіш мой сьветагляд, і ён таксама часам надта мяне мучыць з таго-ж повады. Ты сама відзела, Блюма... ах, не ламі-ж сабе пальцаў. Ты сама відзела, што ні нацыя, ні рэлігія ніякай ролі для мяне ў каханьні ня мелі. Ня кожны камуніст і атэіста патрапіць так любіць, як любіў цябе я, не разглядаўшыся, з каго ты паходзіш і як ты верыш. І тая маральная навука, на якой я ўзгадаваўся дапускала падобнае каханьне, хоць і вымагала іншага, свайго, культа. Бо я насамперш сумленны чалавек, а потым чалавек такой-та нацыі, веры ці чаго там яшчэ. Але цяпер... ах, паслухайжа мяне спакойна, Блюма... цяпер я ня маю спакою, бо я не магу паглядзець абы-каму проста ў вочы і сказаць, што маё сумленьне чыстае. Не, бо яно ня чыстае, бо я, праўду кажучы, злодзей свайго шчасьця. Злодзею трэба хавацца, я хаваюся, сьледам гэтага я злодзей. Такой відавочнай праўды, Блюма, ніводзін філёзаф у сьвеце не зьняпраўдзіць, бо галюсенькая праўда так і муліць вочы. Дык вось-жа я ня хочу быць злодзеем і ня хочу мець нячыстае сумленьне. Няхай я цябе мучу, але табе так толькі здаецца, бо раней ты не хацела адчуць маіх уласных мук, зразумець, як балюча мне, мне самому!

Ліпская (з мукаю). Захацеў адчапіцца ад мяне Данічка, што?

Мутэрка. Ані! і ня думаў,—можа так на твой бабскі розум выпадае.

Ліпская. Ты-ж добра ведаеш, што я не магу зрабіць так, як ты хочаш, што для мяне тое немагчыма.

Мутэрка. А для маіх бацькоў, для мае радні, для ўсяго груду маіх даўнейшых знаёмых тое магчыма, што я хачу зрабіць? Ты паразважала?

Ліпская. Уу! ты й ня зробіш, ты толькі так... Я бачыла, як ты адхіліўся ад мяне, бачыла уй-уй, Божа мой, Божа мой. (Ломіць рукі, хапаецца за голаў).

Мутэрка (ўсхапіўся). Прашу не абразіць! Чуеце, мадам Ліпская?—Прашу не абразіць! (Ходзіць па пакою). Падумаць толькі, да чаго я дайшоў у імя каханьня, каторае так дзіка папіраецца нагамі тэй, каторая... каторую... вось яна! Падумаць толькі, да чаго я дайшоў! Я пакінуў працу на сьвятой народнай ніве і заняўся прыватнымі лекцыямі на ніве дробных, самых паганых эксплёататараў. Я адрокся ад асабістай незалежнасьці і самахоць улез ў аброць ненавідных мне атрыбутаў буржуазнага, мяшчанскага каханьня. Я стаўся ў вачох людзей звычайным альфонсам багатай бабы, я стаўся пасьмешышчам усяго мясьцечка з цэлай ваколіцай. І да гэтага дайшоў я! І так абнізіўся я! Не, яшчэ ня позна скінуць ганебныя ланцугі, і я іх скіну!

Ліпская. Ты нічога ня зробіш, я ўжо ведаю,—ты толькі мучышся сам і мучыш мяне! Уй, Данічка, я не магу... (Рынулася ніц на канапу).

Мутэрка (ходзіць). Ты ня можаш вытрываць і ад віду маіх мучэньняў, а я цярплю іх! Ды я ведаю, што мне рабіць. (Апранаецца).

Ліпскаа (скрозь слёзы). Ты ўважаеш, я не заўважыла, як ты адхіліўся ад мяне? Дык я заўважыла: так адхіляюцца ад старой, нялюбай... бабы. Ну, што-ж, ідзі, куды хочаш, усё роўна ты ня любіш мяне.

Мутэрка. Няпраўда! (Прыстоіў ля дзьвярэй).

Ліпская. Праўда! Праўда! Я цябе любіла ад шчырага сэрца, а ты толькі прадаваўся.

Мутэрка (падскочыў і сьціснуў яе ад злосьці). Што? Ты здурнела? Задаўлю, як жабу! (Чуцен званок).

Ліпская. Даніла Пахомавіч, пусьцеце, уй, чуеце званок? Можа Гапка, можа Сонечка.

Мутэрка (пускаючы). Сонечка?

Ліпская. Даніла Пахомавіч, я вас любіла зусім шчыра, і вы ня маеце права так заплаціць за маё сэрца. Вы падумайце, і мы пагамонім пасьля. А цяпер трэба адчыніць дзьверы. Я не магу, я схаваюся ў свой пакой, я прашу вас адчыніць.

Мутэрка. Вы насамперш скажэце: адракаецеся ад сваіх слоў ці не?

Ліпская. Я адракаюся ад усяго, што сказала і што сама чула, абы толькі зноў было ўсё добра... толькі мае сьлёзы яшчэ ня высахлі. (Другі званок)

Мутэрка. Ну, калі-ж так, даруй мне, Блюмачка! (Цалуець у руку). Уцякай, пайду адчыняць.

(Яны разыходзяцца ў розныя бакі. Чуваць галасы Соні і Мутэркі. Потым ён прыходзіць адзін і цераз троху адчыненыя дзьверы пытаецца: „Соня, хочаце мець сяньня лекцыю?“ Чуцен адказ: „Чаму не?“—„Ну, дык я чакаю!“—„Добра, добра, Даніла Пахомовіч, толькі, распрануся і зачашу валасы. Я зараз!“).

Мутэрка (адзін; пахадзіў, сеў, задумаўся). Эт, чорт дзяры! Ці ня лепей за ўсё будзе мне кінуць мясцечка і заваліцца на вёску да бацькі? Залезьці, казаў той, у нару і сядзець, пакуль мінецца на сьвеце завіруха і небясьпечнасьць. Можа Дзянікін прыдзе, можа чорт, можа д'ябал, абы толькі не панаваньне паганай польскай шляхты. Дзівуюся, як могуць быўшыя расійскія афіцэры ісьці у польскае войска волянтэрамі? Дзе іхныя мазгі? Ідуць да тых, каторыя зачыняюць праваслаўныя цэрквы і манастыры, забараняюць расійскія школы, наварачываюць на каталіцтва і сіламоц далучаюць спрадвечныя расійскія землі да Польшчы. Не, калі ўжо выбіраць, то хіба згаджуся на камуністаў. Прынамсі, свае людзьі, рускія, праваслаўныя. А хто ведае, дасьць Бог--вывятрыцца жорсткасьць камунізму, дасьць Бог—ён увойдзе ў мякчэйшыя, дапушчальныя формы. А калі так, го чым я аддаляюся ад камуністаў. Што я ня хочу, каб мужыком аддалі панскую зямлю? Што я ня хочу, каб фабрыкі сталі гаспадарственым багацьцем? Што, я ня хочу, каб прыціснулі такую брыду, як гэтыя (махае рукою на дзьверы), што смокчуць сокі з мужыкоў, як павукі з мухаў? Чым я ў ідэі не комуніст? Адна розьніца, што я не магу пакрыўдзіць навет гэтае бабы, а яны сьмела спускаюць кроў паном і падпанкам. Эт, чорт дзяры, забяруся на вёску да бацькі і арганізую камуну. Цяпер-ж ня тое, што раней—сорамна было працаваць. Цяпер навет гонар гараць з маёю адукацыяй. Вось дажыліся! Каб ты згарэла!

Соня (стукае). Можна?

Мутэрка. Калі ласка!

Соня (уваходзіць з кніжкамі і сшыткамі). Як у вашым пакоі цёпла... але дымна!

Мутэрка. Ад табакі.

Соня. Навошта-ж так многа курыце?

Мутэрка. Каб лягчэй было на сэрцы.

Соня. А вам цяжка, Даніла Пахомавіч?

Мутэрка. А вам, Сонечка, хочацца мяне пашкадаваць?

Соня. Чаму не?

Мутэрка. Ну, сядзьце-ж, калі так, будзем займацца. Можа дыктоўку напішам.

Соня. Ой, Божа мой, штодня дыктоўку, так ужо дадзела. І я ня ведаю, чаму вам канешна хочацца, каб я пісала па старому правапісу? Калі ўсёроўна прыдуць камуністы, і будзем пісаць пановаму. Вось сяÑтра мае таварышкі казала, што ў Вільні ў той гімназіі, дзе Фаня вучыцца, таксама пішуць пановаму. Калі так шмат лягчэй, навошта пастарому, я не разумею.

Мутэрка. А вы чакаеце камуністаў, Сонечка

Соня. Хто іх не чакаець? Кожны мужык пэўны што яны не вясною, дык улетку будуць тут... Што вы так узіраецеся, Даніла Пахомавіч? (Папраўляець валасы). Здаецца, на мне нічога не напісана.

Мутэрка (ціхім голасам). На вас, любая Сонечка, напісана, што вы надта спачуваеце камуністам, але не ад таго, каб пры зручнасьці зрабіць вочкі і легіянэрам,—угадаў?

Соня (аглядаецца на дзьверы). Уй, ну як вам ня сорамна... мама дома. Будзем, аднак, займацца.

Мутэрка. Будзем. .алеяк: пастарому ці пановаму?

Соня. Я-б хацела пановаму.

Мутэрка. І я таксама, хі-хі!

Соня. Што вы ўсё глядзіцё на мяне? (Папраўляе зноў зачоску). Вы сяньня якійсь асаблівы.

Мутэрка. Вы, Сонечка, так люба, так прыемна... чырванееце, што мне хочацца глядзець на вас доўга, доўга.

Соня. Што гэта? (Прыслухаецца). Быццам шамнула за дзьвярмі? Вам не здалося?

Мутэрка. Я ў зданьні веры ня маю.

Соня. Чаму? Я чула, як быццам штосьці шамнула Чаму вы ня верыце? (Паслухала і супакоілася). Ага, паміж іншым, дозвольце, вось, спытацца. Вы часта кажаце, у тое ня верыце, у тое ня верыце. Цікаўна, якія вашы пагляды наагул... ну, вы разумееце, Даніла Пахомавіч, што я хачу. Вы ніколі не хваліліся. Якія вашы палітычныя пагляды, бо гэта-ж цесна зьвязана, так?

Мутэрка. „Не хваліліся“. Ці-ж гэтым хто хваліцца? (Маркотна памаўчаўшы). Якіх я палітычных поглядаў, Сонечка? Як вам сказаць? Насамперш я—безпартыйны. Душа мая ня зносіць партыйнасьці. Ні да якое партыі ніколі я не належаў, не належу і, пэўна, ня буду належаць. Усякая бо, самая лепшая партыя накладаець на чалавека свае ланцугі, а я прынцыповы супрацiўнік усякіх ланцугоў. Даражэй за ўсяго на сьвеце для мяне свабода, воля. Воля--гэта ўсё! Воля—клёк зямнога існаваньня. Ведаеце, як пяецца: „Ах, ты, воля мая, воля, залатая ты мая!“ ці нешта ў гэтым родзе. А ставячы так высака сваю асабістую волю, я ўмеў шанаваць яе ў кожным чалавеку. Я нікога не забіў і не заб'ю, ні ў кога я нічога не адбіраў, нікога я ня крыўдзіў і ня хочу крыўдзіць, хоць пры ўсім тым, аднача, ня высьцерагся царскага вастрога.

Соня (узварушаная). Вы сядзелі ў вастрозе, Даніла Пахомавіч, праўда? (Мімаволі пахіляецца наперад да яго).

Мутэрка. Сядзеў, прадстаўце!

Соня. Я першы раз чую. Завошта вас пасадзілі, Даніла Пахомавіч?

Мутэрка. Звычайна, завошта: хацеў людзям волі, а сялянам, між іншым, зямлі.

Соня. Дык вы сядзелі за палітыку, Даніла Пахомавіч, а я дагэтуль ня ведала. Я вам ад шчырага сэрца спачуваю. Даруйце, калі часам жартавала, што вы „тыповы контр-рэволюцыянэр". Ах, трэба сказаць маме. Хай яна ведае, што і вы не абы-хто.

Мутэрка. А я прашу вас не казаць.

Соня (зьдзіўленая). Чаму?

Мутэрка. Таму, што ваша мама—чалавек зусім іншага сьветагляду, праўду казаць,—чалавек чыста-буржуазнага складу думак, каторы ў наш час крывавай дыктатуры пужаецца самага маленькага знаку чырвонасьці. Таму, што вашая мама з агідай адвернецца цяпер і ад усяго таго, чаму раней, пры царскім рэжыме, магла навет спагадаць.

Соня (нясьмела). А мне часам здавалася, што мая мама вам вельмі падабаецца.

Мутэрка. Як чалавек?—Ну, разумеццэ, так яна мне вельмі падабаецца.

Саня. Як чалавек і наагул...

Мутэрка. Як-жа яшчэ?

Соня. Як я магу сказаць? Можа быць і як жанчына... бо мая мама была надта прыгожая, але яна і цяпер яшчэ не старая...

Мутэрка (бытцам сарамліва). Папалі пальцам у неба. Я ня ведаю, скуль вы маглі...

Соня. Ой, вам не здалося, што нешта шамнула ля дзьвярэй. (Аглянулася і шэпчыць). А там ня можа быць мама? Гапкі-ж няма.

Мутэрка. Што вам усё здаецца? Мама вашая сьпіць. Можа, котка там бродзіць.

Соня. Трэба паглядзець.

Мутэрка. Ды нікога няма. А ведаеце, Сонечка, у той час, як вы чаго-небудзь баіцёся, вы надта падобны да свае мамы.

Соня (канфузьліва). Гм, цікаўна. Але будзем, наканец, займацца.

Мутэрка. Добра. А чаму вы не пахваліліся, што вам новага казала сястра вашае таварышкі?

Соня. Яна так многа чаго казала? Яна прывязла шмат сахарыну. Іх на дарозе трэсьлі і нічога не знайшлі. Толькі, толькі...

Мутэрка. Ну, ну, што?

Соня. Мне сорамна гаварыць. На заезным дварэ нейкі нахал польскі афіцэр пацалаваў Фаню. Мне так сорамна, што я пераказала.

Мутэрка. Цяпер такія пераказы—звычайная гісторыя, і ніхто іх не сароміцца. Я вам болей скажу,—я чуў ад аднэй свае знаёмае, што рабілі нямецкія афіцэры ў сваей акупацыі.

Соня Што яны рабілі? Гэта вельмі цікаўна!

Мутэрка. Я вам пакажу. Вось, калі ласка, станьце сярод пакою.

Соня. Што такое? Гэта—нічога асаблівага? Вы глядзіцё на мяне такімі дзіўнымі вачыма...

Мутэрка. Нічога асаблівага, ня бойцеся, вы ужо не такая маленькая дзяўчынка, як вам здаецца. Вось, так, стойце. Вы—дзяўчына, гуляеце на бульвары ці навет на вуліцы па тратуару. Я—нямецкі лейтанант, я праходжу міма. Вы мне спадабаліся, я іду, кажу: „Гут морген!" і... (Ідзець да яе, схіляецца і неўспадзеўкі цалуе, потым даволі шыбка, як раней, праходзіць міма і кажаць звычайным голасам). Вось так рабілі нямецкія афіцэры ў часе акупацыі!

Соня. Уй, што такое?!

(У дзьвярох паказалася і схавалася галава Ліпскай, потым чуцен няроўны голас: „Сонечка! Хадзі сюды!" Соня хапаецца за галаў, кідаецца ў ва ўсе бакі і потым бяжыць да дзьвярэй: „Што такое, мама? Я йду").

Мутэрка (адзін). Пранясі, Госпад! Старая карга трапіла ў самы раз. Царыца павыцняя, абарані й памілуй! (Кьсціцца, потым круціць цыгарку). Але, што я зрабіў, што маю баяцца? Я нічога благога не зрабіў, толькі паказаў, як рабілі нямецкія лейтананты. Я толькі нахіліўся троху блізка, але... (Чуцен стук і няроўны голас Ліпскай. „Можна?").

Мутэрка. Чаму-ж не, калі ласка, вельмі прашу.

Ліпская (неспакойная, у плямах). Фэ, які сорам! Фэ, уй, які сорам!

Мутэрка. Што вы, мадам Ліпская, я нічога не разумею.

Ліпская. Фэ, ён сьмеець так казаць! Вон, вон, каб зараз вашая нага пакінула мой дом!

Мутэрка (прычыніўшы дзьверы). Але, што такое, Блюма? Чаго ты халяруеш, я нічога не разумею. Хацела памірыцца і зноў скандаліш. (Ловіць яе за рукі).

Ліпская (са сьлязьмі). Уй, Божа мой, які ён нізкі чалавек! Ен аскандаліў увесь мой дом, ён пагубіў мяне і цаткнууся плямаю да мае чыстае дачкі, ён зрабіў так подла і тым часам нічога не разумее. (Ломіць пальцы). Вон з майго дому, пакіньце мой дом!

Мутэрка (сядзіць і робіць цыгарку). Та-а-ак! Вось цяпер я бачу тваю запраўдную любоў. Ня хочаш прыймаць хрысьціянства і вярзеш на чалавека ліха ведаець якую брыду, каб толькі адчапіцца ад яго. Дык што-ж: купляла ты мяне толькі ці што? Абразь да канца, кажы ўсё, што хочаш.

Ліпская (спакайней, але з вялікай злосьцю). Я нічога аб тым не скажу, бо мне сорам падумаць, што я любіла такога чалавека. Я хачу, каб мае вока век вас ня відзела, каб мае вуха век аб вас ня чула.

Мутэрка. Ну, ведама, чыста буржуазная псыхалёгія: абы ўсё было шыта-крыта, тады і добра. Памыляецеся, мадам Ліпская! Хай кожны чалавек ведае, што я выйшаў чысты з гэтага балота, якое вы ўдавалі за сваю любоў. Хай кожныя ростані ведаюць, што я хацеў, як насамперш сумленны чалавек, назваць вас сваёю жонкаю прад Богам і людзьмі. Хай кожны сабака зьвягае, хай кожная жвінда жвіндае, што я не прадаваўся, але ты, паганая брыда, буржуйка, хацела купіць вучыцеля з целам душою. Хай-жа ведаюць, што ты карыстала з майго цяжкога матэр'яльнага становішча і хацела купіць ня толькі пралетарскае цела, але і вольную чалавечую душу. Хай ведаюць маю бяду, але хай ведаюць, што я выйшаў адгэтуль з высака ўзьнесенай галавою, што я вынес з дома Ліпскай, з гэтага балота, чыстую душу. Хай ведаюць, і палядзім, каму з нас будзе мулка ў мяхьцечку!

Ліпская (надта зазлаваная). Вы, пан Мутэрка, пагражаеце брахнёю? Хто-ж вам дасьць веры? Хіба такія-ж авантурнікі, як васпан? Вас гэткіх шмат ёсьць, я ведаю. Ня ўсіх яшчэ вымелі на сьметнік камуністы! Ня ўсіх яшчэ пагнаілі ў лаге-

рах палякі! Ды я васне баюся! Ніводзін наш месьцячковы ня дасьць вам цяпер лекцый у сваім доме, пане Мутэрка! Пойдзеце да свайго бацькі і будзеце там есьці бульбу нялупленую. А калі станеце на мяне брахаць, дыкне такая Ліпская бедная, каб ёй хто вытыкаў вочы за яе хатнія справы. За вучыцялішку!

Мутэрка. Маўчы! Ато я цябе тут...

Ліпская. Біцца хочаце ў маім доме, што? Я не баюся вашэці! Соня! Соня! (Прыбягаець Соня і ўтупіўшы вочы стаіць ля вушака дзьвярэй).

Ліпская. Вось, мая дачушка, я абрахавала, што пан Мутэрка, як настаўнік, нам вельмі дорага каштуе. У мясьцечку арганізуюцца групавыя лекцыі прыезных лектароў, ты будзеш хадзіць туды.

Соня. Мне ўсе роўна, я буду хадзіць...

Мутэрка (нэрвова апрануўшыся). Дзякую, мадам Ліпская, я на вас не ў прэтэнсіі і зараз прышлю падводу па свае рэчы, хай Гапка складзець іх акуратна, у парадку.

**М. Гарэцкі.**

31/VII—1/VIII, 1920 г.

## Мурашнік.

Між ялоўца кустоў, у гушчы
Вялікай і адвечнай пушчы,
Каля спрухнелых чыста пнёў
Паўстаў будынак мураўёў.
Як горка, зьняўся між расьлінаў,
І ні яны, ні іх галіны
Тут не змаглі яго закрыць.
Жыцьцё гарача ў ём бурліць:
Гвіжджыць, нясецца, прэцца гдзесьці,
Узад і уперад, тут і там,
Сьпяшыць да мейсца ўсё прынесьці,
Што толькі можна, кожны сам.
Няма ні воддыху, ні спаньня,
І дні і ночы праца йдзе,
Бярэ аж радасьць пры угляданьні,
Здаецца, песьня аж гудзе.



Жніво.



Рана Случ.

„Мурашкі—мы, мы—дзеці працы,
Для нас нішто, што хтосьці сьпіць,
Будуем шчасьця мы палацы,
Дык хай жыцьцё гарыць, кіпіць.
„У працы найдзем мы збаўленьне
І ад бяды і ад нуды;
Ад іх варожых спакушэньняў
Мы ўсе сабраліся сюды.
„Нам праца верыць памагае,
Дае і верыць і лічыць,
Што зло заўсёды не змагае,
Што праўда ўсюды заблішчыць.
„Як мы мурашнік свой збудуем,
Па цэлай пушчы мы тады
Тут разам з праўдай запануем,
Ня будзе гора, ні бяды".

*Елавец.*

## Ты запей, беларус!..

Ты запей, беларус, хай пачуюць усе
Твой жыцьцёвы магутны прызыў
І хай песьня твая табе лёс прынясе,
Які ў думках сваіх ты насіў.
Ты запей, каб ад песьні тваёй адгалос
Пакаціўся далёка кругом,
З кожным часам мацней і званчэй-бы ён рос
І сказаў бы усім аб адном:
Годзе працу сваю для другіх аддаваць
І цягнуць свой абрыдлы прыгон,
Калі можна сваё для сябе скарыстаць,
Заўраджаіць спустошлы загон.
Так запей-жа мацней, каб па ўсім па краю
Разьляцеўся магутны прызыў,
І к рабоце прызваў строіць долю сваю,
Каб ты сам, краю родны, зажыў!

*Я. Сявец.*

# Пісулька Харона.

Сьвятло месяца ўзіраецца праз вакно пакою, дзе ў належным парадку ляжаць кнігі, вісяць партрэты, малюнкі і стаіць прыкрытая скульптура. Чуваць рэвалюцыйныя песьні. Прыпёршыся да вушака вакна стаіць чалавек і думаець у голас:

— Будуюць барыкады. Песьняй будзяць помсту; словы, як ядавітыя восвы, вылятаюць з грудзей і кусаючы іншых, пакаляюць злосьцяй, рукі сьціскаюць зброю, вочы шукаюць, сочуць ворага... Будуюць барыкады. Там сойдуцца бацькі, дзеці, сябры, закаханыя, каб мучыць, грызьці адзін аднаго, каб пабіць як найбольш людзей, каб кроў руччом цыла, а неба пажарамі капцілася. І нашто ім усё гэта безгалоўе? Мабыць патое, каб людзей у нічым не павінных, хоць бы такіх, як я, мучыць голадам, перабіваць іх гутарку з Богам, спыняць мастацкую працу, абкідаць хараство балотам, каб кожны стаў сабе і ўсім ворагам.

Я бязсільны змагацца ў гэтым віры мутнага жыцьця. Магу іх толькі праклясьці, а гэта так паможа, як кашаль хваробе. Але чаму-ж народ баіцца!, народ верыць у праклёнцьце, а сказ народа—сказ Бога. Пракляну... (З грукатам валіцца партрэт з сьцяны). Ох, напужаў,—думаў—бомба разарвалася. Чаму-ж ты зваліўся? Ты мой сябра з дзіцячых лет... Не, ты ўжо мой ня сябра, ты так сама будуеш барыкады, збочыў са свайго шляху, упаў з вышыні людзкасьці, разьбіўся, зьмяшаўся з пылам зямным, збалоціўся і крычыш, як іншыя, да хрыпаты аб крыўдзе, аб працоўнай беднаце, аб рэвалюцыі. Мо' гэты твой партрэт зваліўшыся прарочыць тваю сьмерць, калецтва.... Так, табе ўжо не ахарашываць майго памяшканьня, я цябе кідаю на зямлю, тапчу нагой і кажу: зьгінь прападзі, бо вашае скавытаньне, звон зброі, стогн параненых, старшых не дае мне супакойна працаваць, заглушае голас моёй мастацкай душы! (Ходзіць).

Але менш на іх трэ' зьвяртаць увагу—з маёй вышыні яны чуць-чуць відаць. Хай па свойму шалеюць, хай круціць іх віхор ліхалецьця, як пыл дарожны. Мо' яны па свойму і правы. Мне што да іх, я—гэта залатая серадзінка. Я мастак! (Паднімае бераг пакрывала на скульптуры. Якісь час углядаецца). Ха—ха—ха! вось заганю цьвек у мудрыя галоўкі! І скажуць яны, што вялікі скульптар дайшоў да апагэя, да кульмінацыйнага пункту ў сваёй творчай працы, і будуць думаць, пацець, охаць і ўзноў думаць. А я вось накідаў на доску ляпнога матэр'ялу бяз толку, бяз мэты, абы як, абы вышла шуры—муры, і назваў усё гэта „Тайна." І усе, як я каліcь, будуць разгадаваць, шукаць тайну, так-сама, як у антычныя часы шукалі, тварылі красу, аж пакуль ня знойдзіцца мудрэйшы з мудрэйшых і ня прызнаецца, што ён знае тое, што нічога ня знае.

Эх, маркотна жывецца на зямельцы—няма за што рук зачапіць, няма на чым думцы пахістацца. Так усё збрыдла, абязмэцілася, зьніцікавілася. З вады лёд, з лёду вада... Хоць ты зьлётай на якую плянэту, ці што...

Эх, адно збаўленьне для мяне трагі-філёзофа гэта—пазабаўляцца часамі ў абжорства. Гэй, вылазьце з далёкіх схоў бутэлькі з бліскучымі галоўкамі, закускі пахучыя, сытныя!... Пабудую я з барыкады ад праклятай тугі, сяду на зялёным зьмеі і паляту, паляту.... (Пьедь, закусвае). Прыемна мне верыць, што ўсе гэтыя Краса, Тайны і г. д. нарабяць такога бязладзьдзя, голаду, што людзі пазнаюць урэшце свой блуд і аддадуць усе творчыя сілы і запас энэргіі сэрца і галавы, аддадуць усё магутнаму жывату. І засьвеціць тады навука, гастрономія, як пшонная аладка на чорнай патэльні. (Доўга сьмяецца).

І гэта будзе справядліва. Нам трэба жыць, як жыў першы чалавек, што ня меў у раі ані бібліятэк, ані лабараторыяў, вось толькі еў ды з Эвай валаводзіўся. А трэба заўважыць, што Адам у раі быў такі ўжо ідэальны чалавек, якога хацеў сам Бог. Але за гэту праўду яшчэ ёсць лепшая праўда (Дэклямуе).

Чалавеча, трызніш—
Праклянеш ты ўсё,
Бо зямелька, жыцьцё,
То—Галгофа і крыж.

(Чуваць узрыў. Пажар асьвячае пакой). Вось загарэлася нешта—пажар шырыцца. Пачынаецца бітва. Мне страшна. Каб дзе прытаіцца ў цёмны, бязпечны куточак. Нехта ходзе... (Прыкладае вуха да дзьвярэй). Хто-б мог увыйсьці—ўсходы замкнуты на замкі, завалы... (Адчыняюцца паволі дзьверы. Уходзе сябра). Чаго вы прышлі? Што вам ад мяне трэба? Я да вас не мяшаюся, я нічога ня ведаю, я нікога ня знаю... А! Гэта ты, сябра. Чаго-ж ты маўчыш?! Пфу, як ты мяне напужаў! Садзіся. Адыйдзі ад вобліску пажару. Ты так страшна выглядаеш, павекі ў цябе апушчаны; сам бледны, абарваны. Сарві ты гэтую чырвоную кукарду на грудзёх... О, неба, гэта-ж рана, сэрца тваё прабітае, кроў сочыцца, а я думаў істужка... Ты як выхадзень з магілы... Няўжо ты памёр? Значыць, партрэт не дарма зваліўся... я яго зноў павешу... (Сябра падае паперыну). О, дзякаваць Найвышэйшаму, ты кратаешся, ты жывы, а я з перапуду ня ведаў ужо, што і рабіць. Прысядзь, аддыхні, ты страшна змучаны... Хто-ж тут піша, аб чым... (Чытае). Згодна пастановы сходу бога-сонца, зямлі-маці і жыцьцё-даўчай працы, я мушу цябе неадкладна завязьці на „Востраў мёртвых" Бёкліна. Харон."

— Ад Харона... пісулька... Ха, ха, ха... (Валіцца мерцьвяком).

**Л. Р.**

# Вясна прыйшла.

Цёплая, вясеньняя раніца. Чырвоненькая плямка на ўсходзе пашыраецца ўсё больш і больш...

Вось, маленькай плямкі, стаў вялікі, чырвоназалоцісты шлях—гэта займаўся золак.

Пама ньку, як дуронае дзіця, пачало выглядаць сту . цікавымі, вясёлымі вочкамі яснае сонейка..

Сонныя лісточкі на дрэвах устрапянуліся пасьля начнага сну. Травіца ярчэй заблішчала, густа прыбраная сярэбранымі капелькамі сьцюдзёнай расіцы. Лагодны ветрык цалуе, пясьцючы, усіх без разбору: і цёмна-зялёныя лісточкі на пышных галінках, і тысячы, апусьціўшых сонныя галоўкі рознакалёрных кветак, апякнаючых сваім хара-

ством і ап'яняючых сваім пахам, абшырныя лугі, даліны й узгоркі Беларускае зямліцы. А так-сама, ад лагодных пацалункаў ціхага ветрыка пачынае праоуджацца дзіўны, неўгамонны хор . вясёлых шчабятушак птушачак, шмат-хлапатлівых працаўніц пчолак, матылёчкаў, жучкоў і розных кузачак...

Які дзіўны, чараўны хор! Якія цудныя зыкі!

Гэта песьня прачыхаючайся прыроды здольна прывясьці чалавека ў поўнае забыцьцё аб усім на сьвеце, і жадаць толькі маліцца, маліцца, цудоўнай сіле, нявідомаму Духу...

. . . . . . . . . . . . . . . . .

Ціха ўсюды... нікагутка, ні душы... Але не, вун, з шырокай нямошчанай вуліцы, паміж двух радоў калісь нізкіх, дзеравяных, з шэра-саламянымі страхамі хат, а цяпер, на мейсца іх — груд аколкаў цэглы, некалькі асмаленых галавешак і кучы навеянай з дарогі шумы, — ідзе нехта, вылезшы з нейкае ямы, згорблены, маладых гадаў, але сівы ўжо, з шэрым тварам, абросшы чымсьці зялёным, быццам мох м пад вачыма; з чорнымі, худымі, кастлявымі рукамі і сагнутымі каленькамі — хвігура падобная да чалавэка, а за ёй другая, трэйцяя, пятая, дзесятая ..

Усё жыхары з пагарэўшых вёсак; гаспадары некалькіх палосак зямлі і цеснае хаткі, хоць халоднае, нявыгоднае, але за тое сваёй роднае, у якой яны радзіліся і якая іх узгадавала...

Што-ж, хаткі няма, але-ж ужо загончыкаў родных, пэўне крыўдзіцель ня змог ні вынесьці, ні вывесьці адсюль?..

Цяжкія думкі яшчэ больш зьгінаюць згорбленыя плечы, у вачох памутнела і градам цякуць сьлёзы...

Вось ужо й родны загончык, вун і другі, трэйці...

Што-ж гэта? . Ці мае вочы ўжо інакш сьвяцяць?! Ці мой розум памутнеў, што я не магу распазнаць сваёй роднае зямелькі, якую змалку дзён арашаў сваім потам і мазоліў сваё цела?!

Ці гэта тыя самыя ніўкі, каторых калісь адно харaство ап'яняла мяне радасьню?.. Не, цяпер няма ўжо гэтых залацістых, таёмна з ветрам гаварлівых каласочкаў!.. Цяпер, мейсца усяго гэтага харaства, замяняе асмалены дзірван папаратніку, крапівы і інш...

А чаму, чаму гэта?

Ці я горшы, як усе людзі, ці мне больш патрэба, як другім?

Стаіць зьнішчаны гаротнік сярод поля, з апушчанай галавой, а ў грудзёх шчаміць такі востры боль, што хочацца апошнюю зрэбную, падзёртую на плячох кашулю парваць зусім у шматкі, каб ужо нічога ня было, нічога, і жыцьця каб ужо нястала!

Бо ці-ж гэта жыцьцё, калі няма, каб змарыць надакучлівы голад, кавалка сьпечанай мякіны і некалькі пэрагнілых бульбін?.. Калі жонка ляжыць, спухшы ад голаду, ў сырой зямлянцы, на тым мейсцы, дзе стаяла калісь родная хата... Калі сланяюцца, як мёртвыя зданьні, дзеці і плачуць, і енчуць: „есьці хочам“... А бедны тата іх якраз у гэтым часе стаіць аслабеўшы, на паросшым дзікай травой запушчаным полі і ня ведае, чым узараць гэты тоўсты дзірван на вузенькіх палосках — няма каня, няма сахі, нямашака за што й рук зачапіць...

Ці-ж гэта жыцьцё, як ён ведае, што ў гэты самы час, калі ён і яго сямейка пасьпелі ўжо напіцца на сьнеданьня горкіх, балючых сьлёз, ёсьць шмат людзей, што хоць нічога ня робяць, але доля ім спрыяе: яны багаты, яны сыты, апрануты...

. . . . . . . . . . . . . . . . .

Непадалёку, з люстраных вакон мураванага белага палацу, раздаюцца, гулка разносячыся свавольныя зыкі радаснага сьмеху і дзікае музыкі.

Метка, як вастрыём пякучага зялеза прабіваюць яму збалелае сэрца, напамінаючы, што гэтыя пекныя зыкі, вылятаюць з-пад пульхных, белых пальцаў, лянівых — нічога няробячых рук. Напамінае так-самая, некалькі тоўстых падбародкаў з выкрыківаючым горлам і цэлае жыцьцё сваё толькі камандываючых сотнямі цёмнага, прыгнечанага народу. Адзін зык гэтага сытага голасу, заўжды прымушае спрацованага земляроба бяз шапкі ў тры пагібелі сагнуцца.

Высака ўзышоўшае сонейка мала-па-малу прыбліжалася к поўдню, шчыра песьцючы палючымі праменьнямі ажываючую прыроду і абаграваючы дрэмлючыя сілы зморанага земляроба і заклікаючы да працы, але ўжо да іншае працы, — да працы змаганьня за лепшую долю!..

. . . . . . . . . . . . . . . . .

Чаму-ж гэта Бог так ня ўсіх роўна дзеле?.. Бог? Ці-ж Бог? А мо' й людзі?.. бо чаму адзін мае карыстацца нязьлічаным багацтвам, выгадай, а сотні, як тыя пчолкі для свайго трутня, павінны бяз устанку працаваць, аддаючы яму сваю уласнасьць, свае сілы, ахвяровываючы ў гэтым і сваю лепшую долю? Чаму?! Надта вялікае пытаньне і ня ўсякі патрапіць на яго справядліва адказаць. А ці-ж тыя тысячы людзей, што аддаюць лепшыя гады свайго жыцьця на аднаго ўладарніка, ня могуць дадумацца, або ня маюць жаданьня палепшыць сваю горкую долю?.. Няго-ж справядлівасьць назаўсёды заснула і ніколі ўжо не ўваскрэсьне?. Нягож і тыя самыя людзі, якія сотні гадоў нясуць ярмо паніжэньня і бядоты, толькі за тое, што цёмныя хмары зацягнулі яснае сонейка і ня ўдаць было пры пануючай цемнаце нямінучага патрэбнага выхаду на праўдзівы шлях, каб дайсьці да лепшай долі, сьвятлейшай будучыны, — няго-ж гэтыя людзі таксама не адчыняць павек? .

. . . . . . . . . . . . . . . . .

Цешцеся і ўмейце карыстаць! Так доўга чаканае сонейка ўжо, наканец, выкацілася з-за чорных хмар! Яго агністыя праменьні асьвяцілі паўсюды і ўсе шляхі!

Дык хутчэй-жа сьпяшайцеся скарыстаць з яго сьвятла! Хутчэй шукайце шырэйшага і карацейшага шляху да лепшае долі, гаротны селянскі Беларускі Народзе!

А то, каб зноў не зацягнулі чорныя хмары яснага сьвятла і каб вы зноў не засталіся, як сьляпцы ў цемнаце, пад націскам мільёнаў зялезных рук, бязжаласна, несправядліва піхаючых вас у розныя бакі...

Асьведамляйце сьвядомыя несьвядомых, Беларусы!

Клічце, паганяйце адзін аднаго, каб усе разам, грамадой займалі мейсцы на сьвятлейшым, так доўга чаканым вамі шляху! Глядзіце, каб не спазьніліся!

Каб іншыя, чужыя вам, не занялі яго, бо на другі ўсход сонца можа за доўга прыдзецца чакаць..

Дык хай-жа перадае Беларус-Беларусу, што даволі ўжо „спаць“ у цемнаце гаротных, доўгіх сталецьцяў, што настаў час прабудзіцца працоўнаму Беларускаму Народу!!!

. . . . . . . . . . . . . . . . .

Што раз бліжэй і бліжэй мы дажываем да магутнага віхра, які раз-наўсёгды пазрывае ўсе зялезныя ланцугі, путы й краты! Паразламлівае шмат-вяковыя, тоўстыя муры, нямыя сьветкі людзкіх сьлёз і енкаў, даўгалетніх таварышоў, што з чатырох бакоў несправядліва душылі не адну сотню тысяч ахвяр—маладых сіл, толькі за тое, што парываліся пакрыць чырвоным сьцягам людзкую несправядлівасьць, душучую мільёны працоўнага народу...

Сотні змучаных тавырышоў нашых выйдзе з гэтых цесных клетак, хоць з памярцьвелымі, блядымі тварамі, з пасіве шымі валасамі на маладых прыгнеценых галовах, але... з занадта маладым, з занадта сільным духам, з гарачай энэргіей... А мы, сяляне, ня будзьма «спаць», чакаючы гэтага сьвятога моманту, каб не спаткаць яго з пустымі рукамі і сонным духам!..

Каб воля наша ўраз-жа завітала над зьдзекачом—ворагам! А не, то ўсе разам, падымем у гару высака—высака наш чырвоны, кроўю змочаны сьцяг, які тады апавясьціць усяму сьвету, што ўжо настаў той час, калі й мы—працоўны народ, маем права голасна й адважна назваць сябе людзьмі! Людзьмі вольнымі, ро нымі й багатымі!—Але, багатымі. Багацтва, з якога карысталі дагэтуль толькі дармаеды, стане багацтвам працоўнага народу.

**В. Крауцэвічанка.**

# Музыка

## й яе гістарычная роля ў эпоху хрысьціянства.

I.

У жыцьці народаў да-хрысьціянскіх часоў музыка займала пачэснае мейсца. Асабліваю вагу яна мела пры выпаўненьні рэлігійных культаў. І першыя хрысьціяне выслаўлялі Бога сьпевамі. Аб гэтым дае нам весткі Сьвятое Пісаньне (апастолы Мацей, Якаў, Паўла, сьв. Ян Багаслоў і інш.) Інструмэнты, як прыналежнасьць музыкі паганскай, былі адкінуты й з боку кіраўнікоў хрысьціянскага руху мы бачым забарону ўжываць іх. Аб тым, як стварылася хрысьціянская музыка, кажуць розна. Адны, як, напрыклад, Жан-Жак Руссо, [1]) Мартыні [2]) думаюць, што хрысьціянскія сьпевы ў грунце сваім маюць грэцкую ці жыдоўскую, а то й тую й другую музыку; другія-ж (Кізэвэтэр, [3]) Форкель [4]) тлумачаць, што хрысьціяне стварылі сваю асобную музыку, зусім не падобную да музыкі народаў да-хрысьціянскае эпохі.

Грэцкая культура, наогул, мела уплыў на ўсю культуру старавечнага сьвету. Ня будзе нічога дзіўнага, калі й грэцкая музыка палажыла сваю ад'знаку на музыку першых хрысьціян, якія ня мелі патрэбы выдумліваць нейкую штучную музыку толькі дзеля таго, каб яна ня была падобна да паганскае музыкі, а зусім несьвядома з старога матар'ялу будавалі новае цела. Мэтай музыкі было выхаваньне маральнасьці. Вялікую вартасьць яе з гэтага боку добра разумелі апастолы. Сьпевы першых хрысьціян былі надта простыя, але, калі з IV веку хрысьціянская рэлігія зрабілася афіцыяльнай, пачынае прыкмячацца жаданьне іх палепшыць. У гэты час засноўваюцца музыкальныя сьпеўчыя школы, зьяўляюцца хоры пяўцоў-аднадумцаў, парафіянам забараняецца сьпяваць у царквох, каб ня псаваць прыгожасьці пяяньня хору. Выдатнейшымі працаўнікамі ў гэтым напрамку былі сьв. Амброс [5]) і Рыгор Вялікі. [6])

У XI веку пачалі ўладжвацца драматычныя прадстаўленьні на біблейскія сюжэты. Прадстаўленьні гэтыя зваліся літургічнымі драмамі й містэрыямі. Важным элемэнтам іх была музыка. Літургічныя драмы былі дапаўненьнем царкоўнай службы Містэрыі ставіліся сьпярша ў царквох. потым на ганку цэркваў і нарэшце, каля царквы. Ролі выпаўняліся духоўнымі асобамі, але калі ў містэрыі пачалі ўводзіць камічны элемэнт, то ў прадстаўленьнях дазволілі прымаць учасьце жанглёрам [7]) і музыкам. Містэрыі рабілі на ўсіх вялікае ўражаньне. Напрыклад, адна з іх, якая ставілася ў Эйзэнаху 26 красавіка 1322 году, мела такі моцны уплыў на ляндграфа Фрыдрыха, што ён стаў быццам няпрытомны й праз пяць дзён памёр а д

---

[1]) Руссо, Жан-Жак, 1712—1778, выдатны філезаф; пісаў музыку і аб музыцы.

[2]) Мартыні, Джамбатыста, 1705—1784, компазытар і музыкальны дасьледнік

[3]) Кізэвэтэр 1773—1850, вядомы музыкальны гісторык.

[4]) Форкель, Іоган, 1749—1818, нямецкі музыкальны гісторык.

[5]) Сьв. Амброс, 340—397, царкоўны пісьменьнік і дзеяч.

[6]) Рыгор Вялікі, рымскі папа ад 590 да 604 году.

[7]) Жанглерамі зваліся музыкі—профэсыяналы.

адурэньня. Розныя непадобнасьці, ўвайшоўшыя ў містэрыю разам з камічным элемэнтам, зрабілі тое, што яе зусім забаранілі. Гэтымі непадобнасьцямі былі гэтак званыя асьліныя й жартлівыя сьвяты. Асьліныя сьвяты ўладжваліся ў памяць таго, як Марыя ўцякала ў Ягіпет. У царкву ўводзілі асла, апранутага ў манашую вопратку, хтонебудзь замест сьвяшчэньніка сьпяваў у аўтары, падладжываючыся пад асьліны крык; каля асла скакалі, сьпявалі брыдкія песьні, акампанавалі скокам; на аўтары балявалі, гулялі ў косьці, замест ладану палілі старую падэшву й г. д. Большменш тое самае рабілася й на жартлівыя сьвяты. Калі містэрыі зусім страцілі сваю вагу, то ў XVI веку рымскі сьвяшчэньнік Пілiп Нэро заснаваў зборышчы, ў часе якіх сьпярша казалася якаянебудзь навука, а потым сьпяваліся адпаведныя навучаньню сьпевы. Зборышчы гэткія адбываліся ў залі, якая звалася ораторыяй; ад гэтага й самыя сьпевы адтрымалі назву ораторыяў.[1]) Народу ораторыі вельмі падабаліся. Ораторыі Гэндэля[2]) зьбіралі тысячы людзей. Да апошняга часу кожны год на сёмуху ў Кэльне, Ахэне ці Дзюзэльдорфе зьбіраліся вялізарныя масы народу слухаць ораторыі вышэйпамянёнага композытара. Прыходзілі тысячы пяўцоў і музыкаў. Ораторыі мелі вялікую вагу. Яны дапамагалі падняцьцю рэлігійнага пачуцьця й разьвіцьцю эстэтычнага смаку. Музыка ў іх дасягнула значнае вышыні.

У XVI веку ў часе рэфармацыі Лютэр, ставіўшы музыку вышэй усіх мастацтваў, даў ёй новы напрамак. Ен жадаў, каб увесь народ сьпяваў у царквох разам з хорам. Гэта паказала новы шлях для разьвіцьця музыкі. Супольнае пяяньне ў царкве народу з хорам мела для першага вялікую вагу. Ен прыймаў актыўнае ўчасьце ў набажэнсцьве й музыка, якую выпаўняў ён сам, больш казала яго сэрцу, чымся сьпевы хору, часта, навет, для народу незразумелы. Рэфармацыя адбілася й на каталіцкай духоўнай музыцы. У XVI веку сваім настроем яна адпавядала тагочаснаму становішчу каталіцкае царквы й мела характар урачыстаспакойны, „анельскі“. Значнае пашырэньне протэстантызму ў XVII веку выклікала вялікую трывогу сярод каталіцкага духавенства. Гэты неспакой адбіўся й у каталіцкай музыцы.

У ўсходней царкве музыка так-сама зьяўлялася часткай набажэнства. Разьвіцьцю яе асабліва дапамаглі Ефрэм Сірын,[3]) Васіль Вялікі,[4]) Іван Дамаскін[5]) і інш.

Кажучы наагул, ня было й няма ніводнае рэлігіі, якая-б ня ўжывала музыкі. Яна, дзякуючы сваёй суб'ектыўнасьці, вельмі патрэбна для рэлігіі. Сьв. Васіль Вялікі казаў, што з музыкай мы няз-начна для сябе прыймаем і тое, што ёсьць карыснага ў слове. Музыка творыць рэлігійны экстаз. Яна разьвівае рэлігійнае пачуцьцё й лепшыя моральныя нахілы ў чалавеку. Усе выдатнейшыя працаўнікі царквы ведалі гэта і ўсімі способамі

[1]) Пазьней ораторыямі пачалі звацца паложаныя на музыку драматычныя творы, якія выпаўняліся не на сцэне.

[2]) Гэндэль, Гэорг Фрыдрых, 1685—1759, композытар.

[3]) Ефрэм Сірын памер у 378 годзе. Напісаў шмат гымнаў.

[4]) Васіль Вялікі 329—379, паставіў духоўную музыку на значную вышыню.

[5]) Іван Дамаскін жыў у VIII веку. Уклаў композыцыі й працаваў над тэорыяй музыкі.

дапамагалі разьвіцьцю духоўнай музыкі. Трыдэнскі сабор, які адбыўся ў XVI веку, разглядаў тыя дэфэкты, якія мела таго-часная духоўная музыка. Ня гледзячы на прапанаваньне некатарых адкінуць шмат-галосную музыку й вярнуцца да аднагалосных сьпеваў, ён пабаяўся гэта зрабіць, бо добра разумеў вялікую здольнасьць музыкі рэлігійна настройваць чалавека й захапляць яго душу вышэйшымі пачуцьцямі. Бяз музыкі сьвятое слова было-б няжывым.

II.

У сьвецкім жыцьці народаў музыка таксама грала вялікую ролю. Аб гэтым сьведчыць тая пашана, з якою заўсёды адносіліся да музыкі. У англасаксаў, напрыклад, быў закон, подлуг якога ў вінавайцы можна было адбіраць усю яго маемасьць, апрача арфы. Адзін выдатны гішпанскі композытар, жыўшы ў Рыме ў XVI веку, ў прадмове да сваіх твораў казаў: „Мэта музыкі—шляхэтным і строгім чынам выхоўваць душу.“

У летапісах паўночных народаў ёсьць шмат апавяданьняў пра тое, якую пашану музыка мела сярод прынцаў. Гэты талент лічыўся найважнейшым. Каб быць супраўдным прынцам ці героем, трэба ўмець сьпяваць і граць на арфе.

Пасьля X веку музыка надта пашырылася сярод пэўных станаў грамадзянства. Рыцары Крыжовых паходаў былі ўсе музыкамі, бо йгра на інструмэнтах і сьпевы ўваходзілі ў іх выхаваньне. Некатарыя сьведчаць, што, каб музыка ня была гэтак пашырана, то не зьявілася-б вялікага ліку лірычных паэтаў, якіх шмат было ў той час. Засноваліся асобныя гурткі паэтаў-музыкаў: у Францыі—трубадуры й труврэры, ў ангельцаў—мінэстрэльлі. Да ліку іх належылі людзі вышэйшых станаў. Сустракаліся сярод іх, навет, каралі, як, напрыклад, Рычард Львінае Сэрца. Дзякуючы таму, што трубадуры й мінэстрэльлі былі людзі заможныя, яны займаліся музыкай не з якімі-небудзь карыснымі мэтамі, а проста любячы гэтае мастацтва. «Мастацтва дзеля мастацтва»,—было іх лёзунгам. Сярод ніжэйшых клясаў грамадзянства вытварылася асобная катэгорыя музыкаў—жанглёры. Яны наймаліся да трубадураў, каб выпаўняць іх творы й за гэтае бралі грошы.

I ў Нямеччыне былі падобныя да францускіх трубадураў—міннэзінгэры. Розьніліся яны паміж сабою тым, што трубадуры толькі пяялі, а ўтаравалі ім жанглёры. Міннэзінгэры й ўтаравалі сабе самі. Да міннэзінгэраў так сама належалі людзі вышэйшае клясы: каралі, рыцары й г. д. Трубадуры й міннэзінгэры пад уплывам рыцарства выслаўлялі ў сваіх творах жанок. Гэта мела вялікі ўплыў на характар тагочаснага грамадзянства.

Ад вышэйшых клясаў музыка стала пераходзіць і да местовых жыхароў. Гэткім чынам стварылася ў Нямеччыне грамада мэйстэрзінгэраў. Існавала яна вельмі доўга, аж да XIX веку. Гэта былі з'арганізаваныя суполкі з цэхавым парадкам. Але дзякуючы таму, што мэйстэрзінгэры сваё мастацтва ўціскалі ў раз назаўсёды апрацаваныя правілы й не дапушчалі ніякіх зьменаў, творы іх не дасягнулі значнае вышыні. Ня глядзячы на гэта, рэлігійна-моральны напрамак іх мастацтва меў добрыя ўплывы на грамадзянскае выхаваньне й з гэтага боку мастацтва мэйстэрзінгэраў дало

даволі значную карысьць. Прадстаўнікамі музыкі для вышэйшых клясаў былі трубадуры, мінэстрэльлі й міннэзінгэры; для жыхароў-рамясьнікоў-мэйстэр-зінгэры; для забавы простага народу зьявіліся асобныя музыкі-вандраўнікі. Яны хадзілі па кірмашох, вясельлях і забаўлялі народ сьпевамі й ігрой на розных інструмэнтах. Але народ з пагардай адносіўся да гэткіх музыкаў. Яны ня мелі правоў грамадзянства й іх, навет, забаранялася хаваць на могілках. Паволі пачалі яны з'арганізоўвацца ў цэхі з дысцыплінай; кожны музыка павінен быў вучыцца—вясковы адзін год, мястовы—два. Музыка, як мастацтва, паднялося вышэй. Гэтыя цэхі зьявіліся ў розных дзяржавах: Францыі, Нямеччыне, Англіі. Апрача музыкаў, сяброў цэхаў, былі музыкі, не хацеўшыя з розных прычын упісвацца ў цэхі. Паміж тымі й другімі часта выбухалі сваркі, якія, навет даходзілі да парляманту.

У Расіі музыкі-вандраўнікі зваліся скамарохамі. Яны дзяліліся на шмат катэгорыяў. Некатарыя з іх жылі на адным мейсцы: пры заможных людзёх, у местах і мястэчках. Але духавенства абурылася на сьвецкую музыку й на яе прадстаўнікоў—скамарохаў. Гэтая барацьба прыняла асабліва ўпарты характар у сярэдзіне XVII веку. Пад уплывам духавенства цары выдавалі проціў скамарохаў строгія забароны. У адзін час у Маскве сабралі ўсе музыкальныя інструмэнты й зьніштожылі іх.

Але народ не здавальняе мастацтва вандраваўшых і цэхавых музыкаў. Яго патрэбнасьць у гэтым была шмат большая. Ен пад натхненьнем тых ці інш. пачуцьцёў колектыўна творыць сваю ўласную песьню. У гэтай песьні ён пяе аб сваім маленькім жыцьці, аб сваіх маленькіх уцехах, аб сваім горы. З гэтай песьняй ён ніколі не растаецца. Яна сустракае яго зьяўленьне на сьвет Божы, яна праваджае яго на працягу ўсяго яго жыцьця, яна праводзіць яго да магілы. Аб тым, што патрэбнасьць у музыцы ў народаў заўсёды была вялікая, сьведчыць тое, што, навет, няведама, калі стварылася народная песьня. Але напэўна можна сказаць, што гэта адбылося яшчэ да Н. Х.

Побач з містэрыяй, пашырыліся й зусім сьвецкія прадстаўленьні. У іх, як і ў містэрыях, музыка ўжывалася дзеля ўсіленьня асобных лірычных момантаў. Мэлёдыі браліся духоўныя й сьвецкія. Мелі ўчасьце і хоры.

У XVI веку пачынае ствараццa опэра.[1] У пачатку свайго йстнаваньня яна мела вагу толькі як уцеха для людзей вышэйшых клясаў. Але, навет, ворагі гэтае новае выдумкі хутка зацікавіліся ёю. З Флёрэнцыі опэра перайшла ў Нэапаль. Рым, Балонью, Вэнэцыю. Музыка ў Вэнэцыі да яе разьвіцьця, як супраўднага мастацтва, ужывалася пры выбарах дожа, пры яго заручынах з Адрыятычным морам, пры спатканьні якіх-небудзь госьцяў і, кажучы наагул, мела ўрачыста дзяржаўны характар. Апрача гэтага вяльможныя жыхары Вэнэцыі займаліся ёю, як прыемнай забавай. Сярод іх былі вельмі пашыраны сьпевы з лютняй. З Італіі опэра пашырылася ў Францыі й Нямеччыне, дзе такжама была сьпярша забавай для прыдворных асоб. У пачатку стварэньня нямецкай опэры ў Гамбургу духавенства варожа адняслося да гэтага зьявішча, але за тэатр заступіліся унівэрсытэты й абаранілі яго. Італьянцы мелі ўплыў і на англіцкую й расійскую опэры.

[1] Опэрай завецца драматычны твор, палажаны на музыку. Яна выпаўняецца на сцэне.

У славянаў, наогул, музыка была вельмі пашырана, болей, навет, чымся ў іншых плямёнаў. Славянскія песьні стварыліся раней заходня-эўрапэйскіх. Песьні некатарых славянскіх народаў захавалі ў сабе сьляды паганскае музыкі. Карамзін з візантыйскіх крыніц паведамляе аб цікавым факце, малюючым замілаваньне славянаў да музыкі. Адзін раз грэкі ўзялі ў палон нейкіх чужаземцаў. Гэта былі славяны. Замест аружжа яны мелі гусьлі ці кіфары. Славяны апавядалі, што ў іх зямлі няма зялеза, што вайна ім не падабаецца й з аружжам абыходзіцца яны ня ўмеюць, а любяць музыку й жывуць спакойна. Пракопі[1] сьведчыць аб другім факце. У часе вайны грэкаў з славянамі ў 592 годзе славянскія вартаўнікі заснулі пад уласныя сьпевы й, дзякуючы гэтаму, грэкі захапілі славянаў у палон.

У славянаў было шмат розных інструмэнтаў. Аб некатарых з іх злажыліся цікавыя міфы.

### III.

Людзі вельмі даўно ўжо зразумелі вартасьць музыкі, як аднаго з найлепшых выхаваўчых спосабаў і ўвялі яе ў выхаваньне. Як я ўжо ўспамінаў, рыцары сярэднявяковае эпохі павінны былі абавязкова вучыцца музыцы. Людзі заможных станаў заўсёды лічылі патрэбным для сябе хоць крыху ведаць музыку. У шмат якіх гаспадарствах яна даўно ўжо выкладаецца ў школах, але гэтая справа стаіць яшчэ на пярэдадні свайго вырашэньня. Музыка ў школе павінна быць ня толькі абавязковай рэччу, а мэтодай навучаньня й выхаваньня. Знаёмства з разьвіцьцём культуры будзе няпоўным, калі ня ведаць гісторыі музыкі, бо гісторыя музыкі ёсьць частка агульнай гісторыі культуры. Складваючыся пад уплывам географічных, кліматычных, грамадзянскіх і інш. варункаў, яна дапамагае нам даведацца аб жыцьці таго ці іншага народу.

У эпоху хрысьціянства, як і ў старавечныя часы, музыка ўжывалася на вайне дзеля падняцьця ваяўнічага духу. Кожны народ мае свае вайсковыя песьні. У чэхаў, напрыклад, гэткай песьняй была песьня сьв. Война (Адальбэрта), зложаная яшчэ за часы Кірылы й Мефодыя. Яе пяялі чэхі перад бойкай пры Кройсэнбруне, ў 1260 годзе, калі Отокар II разьбіў вэнгэрскага караля Бэля IV, у часе ўрачыстых працэсіяў, перад казаньнем, ў канцы царкоўнае службы. Яе ў розных выпадках пяюць яны й цяпер. Гэткай вайсковай песьняй была ў французаў іх марсэльеза, якую пяялі яны, разьбіваючы сваіх ворагаў у часы вялікае француcкае рэвалюцыі; ў расейцаў «Усясьветная слава», якую можна было чуць у войску ў XVII веку й раней і г. д. Вайсковыя аркестры зьявіліся вельмі даўно. У самых першабытных народаў ёсьць інструмэнты, праваджаючыя іх на вайне. У апошнія сталецьці вайсковыя аркестры перасталі служыць толькі вузка-вайсковым мэтам. Яны ўжываюцца ў вайсковым жыцьці для забавы, на балях і г. д.

Есьць весткі, што музыкай прабавалі лячыць

[1] Выдатнейшы гісторык Візантыйскае імпэрыі. Радзіўся у канцы V, памер у 60 гадах VI веку.

некатарыя хваробы й дасягалі ў гэтым напрамку досыць добрых рэзультатаў. Яшчэ Піфагор радзіў лячыць музыкай. З ім згаджаўся й лекар Авіцэна. У Італіі, Францыі, Нямеччыне й іншых гаспадарствах музыку ўжываюць цяпер дзеля лячэньня лёгкіх формаў адурэньня.

Сярэднявяковай музыцы, як і ў старавечныя часы, прыпісвалі розную сымволічную вагу. Цаміж рэлігіяй і моральнасьцю з аднаго боку й музыкай—з другога бачылі нейкія таёмныя адносіны. Трохчасны разьмер лічыўся самым лепшым, бо на лічбу тры, напамінаючую Сьв. Тройцу, глядзелі, як на нешта сьвятое. Тры катэгорыі інструмэнтаў: ударныя, духавыя й струнныя адпавядалі веры, надзеі й любові. Знаходзілі нейкі зьвязак паміж музыкай і рознымі косьмічнымі зьявамі, агнём, паветрам, зямлёй і г. д. Музыцы, навет, прыпісвалі нейкую цудоўную моц. У расейскіх байках успамінаецца пра цудоўныя гусьлі, пад зыкі якіх скакалі й людзі й жывёла. Беларускія казкі апавядаюць аб мужыку Івану. Хто чуў яго йгру на дудцы, той ня мог вытрымаць, каб ня пусьціцца ў скокі.

Роля музыкі ў агульным разьвіцьці культуры ўсяго чалавецтва пачынае яшчэ толькі абрысоўвывацца. Яна ня зусім яшчэ выяўлена. Ня зусім яшчэ зразумелы той зьвязак, які, бязумоўна, ёсць паміж музыкай і іншымі галінамі духоўнае дзейнасьці. Але толькі адно можна сказаць цяпер: роля музыкі ў жыцьці чалавека вельмі вялікая й мастацтва гэтае сярод іншых мастацтваў займае не апошняе мейсца.

**А. Рамаўоускі.**

---

# Тэатр на вёсцы.

*(Гл. № 1).*

## Інспіціэнт.

Так сама як суфлёр у будцы ёсьць кіраўнічым артыстаў на сцэне, гэтак сама за сцэнай—пільнуе з экзэмплярам або сцэнарыюсам у руцэ, каб усё ішло складна,—інспіціэнт. Гэтак ён: 1) ўпускае ўпару на сцэну артыстаў, 2) робіць за кулісамі гром, маланку, гоман, стрэл і г. п.—ўсе тые эфэкты за сцэнай, аб якіх кажа аўтор у пьесе, або да якіх дадумаўся рэжысэр, 3) дае знак, каб адчынялі заслону, 4) каб зьменшылі, ці павялічылі сьвятло, 5) памагае рэжысэру ў яго працы: даглядае перад кожным актам ці дэкорацыя пастаўлена так, як трэба, ці ёсьць патрэбные мэблі, ці рэквізыты ўпарадку, 6) дае званкі для публікі, паведамляючы яе, калі мае пачацца акт.

Калі нямя лішняга экзэмпляра, ня трэба перапісваць усю пьесу, а толькі выпісаць сцэнарыюс. Каб паказаць як гэта робіцца, возьмем для прыкладу канец 1-га акту пьесы „Каліс“ (зьявы X, XI і XII) і выпішам сцэнарыюс.

| | |
|---|---|
| — няхай за маю нявернасьць першая на вуліцы куля расшчэпіць мне галаву.<br>— Расшчэпіць мне галаву. | За сцэнай цяжкіе крокі.<br>Зьвяканьне аружжа. |
| — Патруль. | Загасіць рампу X. |
| | Запаліць рампу X. |
| — і тады будзем заўсёды разам. Я паеду там, дзе ты будзеш, пашукаю для сябе якой работы. Добра, Юрачка, будзем разам?<br>— Будзем разам, пакуль турма не разлучыць.<br>— Ох, не кажы так, бо мне плакаць хочацца. | Званок. |
| — Звоніць нехта да стоража.<br>— Звоняць. Маю благое працуцьце. Хто ведае, мо гэта.. | Стук ўсярэдніе дзьверы. |
| — тут вышэй, у гэтым доме, таварышы... схаваюць, каб толькі пасьпець пакуль брама... Палі ўсё, што я табе даў. Бывай здарова (*пауза*). | Маці (з левай).<br>„Хто-ж гэта стукае. Ты яшчэ ня сьпіш“. |
| — Мама, не адчыняй.<br>— Чаго ты. Што гэта?<br>— Паліцыя. | Вагонь у печы. |
| | Акалодачны з салдатамі (праз сярэдніе дзьверы).<br>„Здесь жывет“... |

Глянуўшы на гэтую вышэй зробленую таблічку, вы адразу заўважыце, што з левага боку прастападнае лініі напісаны словы, якіе гаворацца на сцэне, а з правага тое, што трэба ведаць інспіцыэнту. Разгледзім сцэнарыюс гэты па парадку.

Пасьля таго, як на сцэне будуць сказаны другі раз словы: „расшчэпіць мне галаву“, інспіцыэнт павінен зрабіць за сцэнай *стук* цяжкіх крокаў і *зьвяканьне* аружжа. Пасьля слова: „Патруль“—загасіць агонь у той рампе, у якой загадаў рэжысэр на генэральнай рэпэтыцыі. Далей, у левай клетачцы мы ня бачым ніякіх слоў. Гэта значыць, што ў гэтым прыпадку інспіцыэнт павінен толькі сачыць праз дзірачку, або шчэліну ў дэкорацыі за тым, што дзеіцца на сцэне і, калі Юрка запаляе сьвечку (бяз слоў), ізноў запаліць загашаную рампу. Што датычыцца далейшых знакаў: «званок» і «стук», то ўсё тут зусім зразумела. Далей—пасьля слоў «Бывай здарова» і пасьля паўзы (уважайце на паузу! нельга ніколі пазьніцца, але і нічога нельга рабіць зарана) ўваходзіць праз левые дзьверы Маці. Левы і правы бок сцэны прынята лічыць з погляду ад публікі, не ад сцэны. На словы «паліцыя» трэба зрабіць вагонь у печы, а затым упусьціць на сцэну Акалодачнага з салдатамі (як Людвіся адчыніла дзьверы). У тэй клетачцы, гдзе напісана імя асобы, якая ўваходзіць на сцэну, павінна быць напісаны і першые словы, якіе гэтая асоба гаворыць увайшоўшы, каб артыст увайшоў на сцэну з гатовай на вуснах фразай, а не чакаў, пакуль яму суфлёр падскажа.

Інспіцыэнт павінен памятаць, што артыст перад сваім выхадам на сцэну амаль заўсёды бывае спэцыяльна знэрваваны, перажывае такі псыхічны

стан, які у закуліснай гутарцы мае найменьне: «трасца», „трэма“. Дзеля гэтага інспіцыэнт павінен быць спакойны, не нэрваваць актора, нікога ня слухаць, верыць толькі свайму сцэнарыюсу і, калі прыбліжаецца часіна выхаду актора на сцэну, папярэдзіць яго аб гэтым словамі: «вы на пляне»; калі ўжо на сцэне пачынаюць гаварыць тое, што адзначана ў сцэнаюрысу (у левай клетачцы), роўным ціхім голасам сказаць „гатоўцеся!“ і, калі ўжо прыйшоў мамэнт выхаду на сцэну,— цьвёрда рашуча скамандаваць: „ужо!“ Гэтакім чынам, каб прыгатаваць актора да выхаду на сцэну, інспіцыэнт карыстаецца трэма камандамі.

Калі інспіцыэнт перад выхадам артыста будзе нэрвавацца, паказваць сваю няпэўнасьць, дык артыст праз гэта яшчэ больш знэрвуецца, што можа дрэнна адбіцца на яго ігры.

Датычна гэтакіх тэатральных эфэктаў, як *грымот, маланка, дождж* і г. п. можам даць вось якіе практычные рады:

Г р ы м о т. Дзеля гэтай мэты бярэце кусок бляхі, вешаеце яе за кулісамі, і, як патрэбны гром, устрахіваеце ёю, узяўшы рукою за канец. Калі зробіце гэта ўмела (навучэцеся на рэпэтыцыях), гук, які зробіцца ад гэтага, будзе напамінаць гук грымоту.

Калі спэктакль адбываецца ў невялічкім памяшчэньні, дзеля гэтай самай мэты можаце карыстацца вялікім аркушам картону (тоўстай паперы); пры гэтым атрымаеце гук шмат мягчэйшы і прыемны для вуха. *)

Ш у м в е т р у. Трэба зрабіць два драўляные колы, злучаные адно з адным цэлым радам плоскіх палак. Праз гэтак зроблены валік перакінуты кусок ядвадней (шоўкавай) матэрыі, канцы каторай прыбіты цьвякамі да сьцяны, ці якойсьці дошкі. Гэтые колы павінны лёгка вярцецца на восі, каторую трэба круціць або ручкай, або перакінутым цераз яе шнурком. Папярэчные скрэпляючые колы плоскіе палачкі (лінейкі), чапляючыся сваім загостраным бокам за працягнутую ядвабную матэрую будуць рабіць шорхат падобны да шуму ветру; а як хутчэй пакруціце гэты апарат, будзе падабенства да выцьця мяцеліцы.

Калі вышэй апісаны апарат чамусьці ня птрапіце зрабіць, можна дабыць шум ветру, водзячы шырокім махам венікам па вольна вісячаму дэкорацыйнаму палатну, або хутка круцячы прывязаную да шнурка невялічкую драўляную лінейку. Але гэты апошні спосаб вельмі не практычны з таго боку, што лінейка можа абарвацца, або—яшчэ горш—можна кагосьці, хто блізка падвернецца, акалечыць.

М а л а н к а. Купеце ў аптэкарскім магазыне магніевай устужкі і прыгатуйце за кулісамі запаленую сьвечку. Калі трэба зрабіць маланку, запалеце ўстужку ад сьвечкі. Магній дае сільнае сінявата белае сьвятло, падобнае з коляру да бліску маланкі. Але магній гарыць колькі сэкундаў, а як ведама, маланка, бліскае адну хвіліну. Дык прыгатуйце нешта, каб запаліўшы магніевую ўстужку, вы хутка маглі б яе зара загасіць.

Д о ж д ж. Робіцца гэтак: зьбіваеце з дошчак доўгую вузкую скрыню і насыпаеце ў яе крыху шроту або дробных каменчыкаў. Пасярэдзіне гэтай скрыні прымацоўваеце падпорку кшталтам восі гэтак, каб, абапёршы яе на якіхсьці падстаўках, можна было хістаць скрыню то адным, то другім канцом угару. Тады шрот ці каменчыкі будуць перасыпацца з аднаго канца ў другі і іхні шорхат вельмі падобны да шорхату капель густога дажджу.

Сьнег. Можа здарыцца, што трэба, каб было відаць, як падае сьнег. Тады бярэце белай паперы, парэжаце яе на як найдрабнейшые кусочкі і сыпеце з гары на сцэну. (Калі сьнег падае за вокнамі—дык за кулісамі).

Калі столь нізка і няма куды ўзабрацца з гэтай мэтай над сцэну, трэба зрабіць доўгую праз усю сцэну скрыначку з сеткай замест дна і, напоўніўшы яе парэзанай паперай, устрахіваць за канцы, каб паперка сыпалася праз гэтае сіта.

Каб зрабіць на сцэне одбліск п а ж а р у, трэба дастаць г. наз. бэнгальскага агню. Гэта ёсьць парашок, які ўсыпаеце ў плоскую бляшанку і запаляеце. Ен дае востры чырвоны сьвет.

Калі за сцэнай трэба зрабіць г о м а н народу, ня трэба крычаць бяз сэнсу адны склады, але гаварыць якіясь словы, кожны іншые (глядзі напр. „Калісъ“ акт II, зьява 8).

Кажучы аб абавязках інспіцыэнта, трэба зьвярнуць увагу яшчэ на адну рэч, аб каторай вельмі часта не памятаюць або ня ведаюць за сцэнай. Калі актор увайшоў на сцэну, забыўшыся зачыніць за сабой дзьверы,—не рэз мы бачым, як чыясьці клапатлівая рука працягіваецца за кулісамі і зачыняе іх. Ня толькі інспіцыэнт не павінен рабіць гэтага, але павінен глядзець, каб іншые гэтага не рабілі, бо гэта выглядае сьмешна, ненатуральна і псуе ўражаньне.

Так-сама інспіцыэнт павінен глядзець, каб ніхто не стаяў за дзьвярмі і не падглядываў на сцэну, бо актор, выходзячы са сцэны, і неўспадзеўкі адчыніўшы дзьверы, ударыць падглядчыка па носе і адкрые яго перад публікай.

Трэба, каб у часе ігры на сцэне было за кулісамі зусім ціха, каб не перашкаджаць іграючым артыстам і не разьбіваць увагі тых, якіе чакаюць свайго выхаду. Гаварыць можна толькі шэптам і толькі тады, калі ёсьць канечная патрэба.

Вось гэта ёсьць тые думкі, якімі я манюся памагчы людзём, зусім не абзнаёмленым з тэатральнай работай, у іхняй мастацкай працы. Тут я нічога не кажу аб найважнейшай частцы тэатральнай працы—аб акторскай тэхніцы. У гэтай справе я пастараюся падзяліцца сваімі думкамі ў другі раз у іншай стацьці.

**Ф. Аляхновіч.**

(Канец).

*) У сапраўных тэатрах есьць дзеля гэтага іншые спэцыяльные прылады. Гэта есьць скураные пудэлачкі, якіе круцяцца увакруг прыладжанай да іх восі. У сярэдзіне пудэлачка блытаюцца драўляные круглые кулі. Ужываецца так сама і звычайны турэцкі барабан вялікага фармату. На ем кладуць колькі драўляных гладкіх круглых куль. На бэр бане ударяюць звычайнымі барабаннымі калатоўкамі.

Рэдактар: Рэдакцыйная Калегія.
Выдавец: Камісарыят Народнае Асьветы.

Ахопліваючы ўсё шырэйшыя праявы жыцьця ў навуковай і мастацкай літэратуры, ў газэце, ў індывідуальнай творчасьці: вершах, песьнях і інш., яна пэўне-ж ня можа здаволіцца тым невялікім лікам слоў, каторыя патрэбны селяніну ў яго кожнадзённым жыцьці, а набірае ў сябе ўсё новых зваротаў, адпаведаючых тым старонам мастацтва, штукарства, літэратуры, каторыя яна павінна абслужыць і абслужвае. І вось пазволю сабе запытацца: ці не такое-ж становішча і з расейскаю моваю і з іншымі? Ці-ж падобна расейская літэратурная мова, ў якой пішуцца артыкулы ў газэце, ці гавораць расейскія бэлетрысты-пісьменьнікі, да той, у якой гутараць расейскія сяляне Пскоўскай ці Пэнзэнскай губэрняў, ці зразумеюць апошнія добра гэны артыкул, ці гэнага бэлетрыста з іх інтэлігентнымі зваротамі мова, з іх тэрміналёгіей?

Чаму-ж у гэтым выпадку нікому ня кідаецца ў вочы зусім зразумелая на наш погляд розьніца ў мове і словах, і чаму, калі такую-ж самую праяву мы спатыкаем у беларускай мове, то на яе паказваюць пальцамі?..

Гэта даводзіць толькі, што тыя людзі, каторыя бяруцца крытыкаваць, не даюць сабе працы раней крышачку падумаць над тым, што яны гавораць, і чаго яны хочуць, бо пэўне-ж, каб яны добра над гэтым падумалі, то ніякім спрэчкам ня было-б мейсца. Ну, але будзем спадзявацца, што гэта хутка пройдзе і іншы погляд на рэчы не за гарамі. Для нас беларусоў-«вучоных» і «простых»—ясна, што нашая мова ёсьць і развіваецца і нас добра разумеюць тыя, да каторых мы ў ёй гаворым, бо гэта нашыя бацькі, маткі, дзяды, а мы яшчэ не навучыліся гутарыць з імі на рожных языках...

Адказваючы на пастаўленае пытаньне, ў якой мове мусіць разьвівацца справа асьветы ў нашым краі, бяручы пад увагу ўсе стораны пытаньня і з пункту гледжаньня і палітычнага, і тактычнага, і карысьці для краю і самае справы, трэба прызнаць, што ёсьць адна дарога, гэта разьвіцьцё школьнае і культурна-асьветнае працы ў першую чаргу ў мове беларускай.

Навет тэорыя і практыка школьнае працы гаворыць аб тым-жа, бо скарэй дзіцянё можа навучыцца чытаць і пісаць, калі пачне сваю навуку ў роднай мове; пры гэтым спосабе навучаньня ня трэба зьмяняць кругазор дзіцяці, бурыць яго псыхіку, а наадварот, стасуючыся да яе, аблягчыць яму першыя крокі тэхнічнага выкананьня, зьвязаных з навучаньнем патрэб, а калі яно навучыцца ў сваёй мове, калі пройдзе гэтыя цяжкія першыя крокі пачатковага навучаньня—тагды можна вучыць яго чаму і як захочацца. Ясна адсюль, што пачатковае навучаньне беларускіх дзяцей павінна быць у роднай беларускай мове.

Да беларусоў часта зьвяртаюцца з пытаньнем, як жа далей яны правядуць школьную справу пасьля пачатковага навучаньня, бяручы пад увагу, што ў іх няма падручнікаў у роднай мове, што тыя, якія ёсьць неадпавядаюць патрэбам апошняе тэорыі і часу і г. д.

На гэта можна адказаць толькі адно, што беларусы зусім ня думаюць гвалціць школу, канечне прымушаць рабіць тое, што ім і другім не пад сілу і не па ахвоце, але маюць права маральнае і юрыдычнае, карацей—жыцьцёвае, патрабаваць, каб рабілася ўсё ў напрамку прыбліжаючаму, а не адсовываючаму, тую школу, якую бачым у другіх мовах. І ў гэтай працы можна спадзявацца, што яны устрэнуць прыхільнасьць і дапамогу з боку тае ўлады, каторая ня словам, а справай праводзіць у жыцьцё свае ідэі. Беларусы зусім смутна лічуць, што пакуль ня можна пастроіць школу ў беларускай мове цалікам, то патрэбна мець у школе выкладаньне па беларусазнаўству, як рэч абавязковую; у вышэйшай-жа школе, як унівэрсытэт,—свой беларускі факультэт. Вось тыя на разе патрэбы ў школьнай справе, каторыя зьеднаюць усіх беларусоў пад сьцягам асьветы краю і народу.

У справе ўплыву на старое пакаленьне і яго разьвіцьцё, асьвета павінна так-сама зрабіць усё, каб прабудзіць народ да калектыўнае творчае працы, выклікаць жаданьне працаваць у імя лепшае прышласьці, лепшае долі, прылучыць яго да вялікае культурнае сям'і поруч з іншымі народамі..

**Янка Сьвятляк.**


З 5-га жніўня гэтага году

**у Менску выходзіць газэта**

**„САВЕЦКАЯ БЕЛАРУСЬ"**

*выданьне Рэўкому Сацыялістычнае Савецкае Рэспублікі Беларусі.*

**Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі:**

Менск, рог Губэрнатарскай і Падгорнай вул., д. Сьвянціцкага, кв. 13.

3н//855449(050)
B0000002471093

## АД ВЫДАВЕЦТВА.

Літэратурна-Выдавецкі Аддзел Камісарыяту Народнае Асьветы Беларусі прыступіў да выданьня двох журналаў: літэратурна-мастацкага двохтыднёвіка на беларускай мове «ВОЛЬНЫ СЬЦЯГ» і навукова-пэдагогічнага штомесячніка на мове аўтора артыкулу «Школа и Культура в Советской Белоруссии». Таксама приступлена да выданьня падручнікаў і кніг. Запрашаюцца ўсе асобы, якія маюць рукапісы і жадаюць прыняць учасьце ў супрацоўніцтве прысылаць свае творы ў Літ.-Выдав. Аддзел. Рукапісы, прынятыя да друку, аплачваюцца згодна з істнуючымі стаўкамі. Літ.-Выдав. Аддзел месьціцца ў Менску на Скобелеўскай вул., у б. Архірэйскім доме.

### НАДРУКАВАНА:

Цыгельман. **Курс Арытмэтыкі.** Пераклад.

### ДРУКУЕЦЦА:

1) Навукова—пэдагогічны журнал на мейсцовых мовах: **«Школа и Культура в Советской Белоруссии».**
2) Л. Гарэцкая. **«Родны Край»** 1-ая пасьля лямэнтара чытанка.
3) Л. Чарняўшчынка. **«Родны Край».** 2-ая чытанка.
4) Б. Тарашкевіч. **Беларуская граматыка.**
5) І. Тэраускі. **Зборнік беларускіх песьняў.**
6) Шапашнікоў і Вальцоў. **Зборнік арытмэтычных задач.**
7) Ф. Аляхновіч. **Театр на вёсцы.**

### ПРЫГАТОВАНА ДА ДРУКУ:

1) Беларускі дзіцячы журнал: **«Зорні».**
2) С. Некрашэвіч. **Лямэнтар.**
3) Я. Лёсік. **Правапіс.**
4) Яго-ж. **Наша Крыніца.** Другое чытаньне I і II разьдзелы.
5) Ч. Родзевіч. **Курс прыродазнаўства.**
6) Янка Купала. **Зборнік вершаў.**
7) Ф. Аляхновіч. **Птушка шчасьця.**
8) Яго-ж. **Нясконченая драма.**
9) М. Байкоў. **Увод у філёзофію.**
10) В. Войтенко. **Курс политической Экономии.**
11) Его же. **Курс статистики.**

## Новыя кнігі.

*„Наша Крыніца“*, чытаньне для Беларускіх школ, ч. III і IV, 30+IV стар. Злажыў *Я. Лёсік.* Менск, 1920 г.

*„Зборнік твораў для дзіцячага тэатру“*, 58 стар. Менск, 1920 г. *Зьмест: Данілка і Алеська*—М. Кудзелькі. *У лясным гушчары*—Ф. Аляхновіча. *Датрымаў характар*—А. Гаруна. *Марилька*—Сымона Рака.

Менск, 5-я Савецкая друкарня. Р. В. Ц. Минск. Друкавана ў ліку 600 экз.